Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 49 (4900) 9 снежня 2016 г.



# Сонца ў вокнах Багдановіча

## У дзень нараджэння паэта адкрываюцца «Беларуская хатка» і абноўленая экспазіцыя літаратурнага музея Максіма Багдановіча


Фота Анатоля Клешчука.

«Беларуская хатка» — адзіны захаваны будынак у Мінску, дзе жыў паэт.

**Сёння — 125 гадоў з дня нараджэння нашага Страцім-лебедзя. А ў 1991-м, да стагадовага юбілею, была адкрытая першая экспазіцыя літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Яна працавала да 2012 года, калі прынялі рашэнне пра капітальны рамонт будынка. Экспазіцыю цалкам дэмантавалі.**

Больш як пяць гадоў музей быў закрыты для наведвальнікаў, хоць літаратурныя імпрэзы і асобныя выстаўкі тут рэгулярна праводзіліся. Сёння ўпершыню можна прайсці па пяці абноўленых залах.

Навуковая канцэпцыя цалкам захаваная: «Вянок» як цэнтральная тэма, сімвалічны маршрут-«кругабег». Захавалі і мастацкае афармленне, ідэю якога распрацаваў Эдуард Агуновіч (у прыватнасці — ляпніну ў стылістыцы эпохі мадэрн, люстры, зробленыя адмыслова для музея Багдановіча). Вярнуліся на месца ўнікальныя вітражы з відамі Мінска — сёння ў такой тэхніцы не працуе амаль ніхто.

З новага — тэхнічныя абнаўленні, найперш — мультымедыйныя прылады. Не любіце масавыя экскурсіі? У інфармацыйным кіёску цяпер можна знайсці патрэбныя звесткі, пагартаць «Вянок» — у электроннай копіі, прагледзець здымкі… Ёсць сюрпрызы і для аматараў лекцыйнага фармату: экскурсіі цяпер суправаджаюцца адмысловымі мелодыямі і гукавым шэрагам, прыкладам, пры чытанні вершаў з цыкла «У зачараваным царстве» шуміць векавечны бор.

Сярод сюрпрызаў — новыя экспанаты: куфар Ганны Какуевай, атрыманы летась ад яе нявесткі, дакументы, датычныя працы Адама Багдановіча, бацькі паэта. А галоўнае — невядомыя да нядаўняга часу аўтографы самога Максіма, што вялікая рэдкасць. Так, у 1909 годзе ён выправіўся ў Ялту на адпачынак. Адтуль дасылаў у «Нашу Ніву» кароткія нататкі. У абноўленай экспазіцыі знаходзіцца надзвычай цікавы дакумент: пісьмовая просьба Багдановіча выпісаць яму газету «рускім шрыфтам» (то бок, кірыліцай). На паштоўцы — рэдкі подпіс «М. Богдан». Надалей паэт адмовіцца ад такой формы.

На агляд выстаўлены яшчэ адзін яго аўтограф, знойдзены некалькі гадоў назад у Яраслаўлі. Гэта дароўны надпіс на адбітку артыкула «Белорусское возрождение», надрукаванага ў часопісе «Украинская жизнь» у 1915 годзе, №№1 — 2. Прэзент адрасуецца Мікалаю Дружыніну, рэдактару яраслаўскай газеты «Голас», з якой Максім плённа супрацоўнічаў.

…Сто гадоў таму, улетку 1916-га, Максім Багдановіч прыязджае ў Мінск. Ён знаходзіць прытулак у «Беларускай хатцы», у Змітрака Бядулі і яго сёстраў. Менавіта тут, па сведчанні Аркадзя Смоліча, паэт упершыню прачытаў сваю «Пагоню». Сёння дзверы Максімавага пакоя зноў адчыненыя…

Інтэр'ер «Беларускай хаткі» ўзнаўляе атмасферу пачатку XX стагоддзя. Мемарыяльны дух спалучаецца з дакументалістыкай: з'явіліся новыя паперы, датычныя Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі ды іншых прадстаўнікоў тагачаснай інтэлігенцыі, дзейнасці Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны.



Фота Кастуся Дробава.

Сярод новых экспанатаў музея Багдановіча — дакументы, датычныя бацькі паэта.

Працяг на 3-й стар.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды работнікам розных сфер. Культурную галіну прадстаўлялі артысты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Прэзідэнт падзякаваў за тое, што яны нясуць грамадству ідэалы сапраўднай прыгажосці, гармоніі і высокага мастацтва. Салістка Вялікага тэатра Настасся Масквіна ўганараваная званнем «Народны артыст Беларусі».

✔ Пераможцаў конкурсу «Чалавек Года культуры» аб'явяць у 14 намінацыях. Конкурс ладзіцца Міністэрствам культуры Беларусі. Да ўдзелу запрашаюцца работнікі сферы культуры, педагогі ўстаноў адукацыі ў сферы культуры, супрацоўнікі СМІ (у намінацыі «Асвятленне пытанняў культуры ў сродках масавай інфармацыі»), члены творчых саюзаў. Тэрмін падачы заявак у Міністэрства культуры — да 25 студзеня, а прадстаўленыя матэрыялы будуць разгледжаны да 31 студзеня. Журы, сфарміраванае з прадстаўнікоў міністэрстваў культуры, інфармацыі, Мінгарвыканкама, устаноў культуры і творчых саюзаў, з 1 па 10 лютага падвядзе вынікі конкурсу. Пераможцам уручаць спецыяльныя дыпломы і грашовыя прэміі ў памеры 25 базавых велічынь.

✔ III Міжнародны Калядны фестываль батлеечных і лялечных тэатраў «Нябёсы» пройдзе ў Мінску 12 — 15 студзеня. Заяўкі падалі больш за 50 удзельнікаў з усіх рэгіёнаў Беларусі, а таксама з-за мяжы. Для ўдзелу ў праграме абраны 21 тэатральны калектыў з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Сербіі, Літвы ды іншых краін. Садзейнічанне ў правядзенні фестывалю аказвае Міністэрства культуры Беларусі і Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт. Фестываль «Нябёсы» ладзіцца па бласлаленні Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Паўла. Заснавальнікі — Мінская епархія, Свята-Елісавецінскі манастыр.

✔ Юныя віртуозы ігры на фартэпіяна з Беларусі, Ізраіля, Літвы, Малдовы, Расіі і Украіны ўзялі ўдзел у міжнародным конкурсе «Музыка надзеі», які гэтымі днямі праходзіць у Гомелі. У ліку арганізатараў — Міністэрства культуры Беларусі. Сёлета ў горад над Сожам прыехалі больш за 60 маладых выканаўцаў дзіцячых школ мастацтваў, гімназій, каледжаў. Журы конкурсу ўзначальвае саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў. Ладзяцца канцэрты выдатных музыкантаў Беларусі, блізкага і далёкага замежжа, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў. Члены журы прапануюць майстар-класы.

✔ Нацыянальная акадэмія навук Беларусі і Польская акадэмія навук падпісалі пагадненне аб навуковым супрацоўніцтве. Дакументы падпісаны ў час візіту ў НАН Беларусі прэзідэнта Польскай акадэміі навук Ежы Душынькага.

✔ Мінск стаў першым у рэйтынгу папулярных сярод расіян турыстычных напрамкаў СНД і Грузіі па выніках 2016 года. Беларусь увайшла ў першую дзясятку самых папулярных сёлета ў расійскіх турыстаў замежных краін, у ліку якіх — Італія, Тайланд, Іспанія, Германія, Чэхія, Францыя, Грузія, Грэцыя і Эстонія.

## Супрацоўніцтва

# Глыбінь далёкіх каардынаты

**Выдавецкі дом «Звязда» прэзентаваў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі кнігу кітайскага паэта Ван Гачжэня, выдадзеную на беларускай мове.**

«Мелодыі адкрытага сэрца» — сёмы па ліку зборнік вершаў у серыі «Светлыя знакі: паэты Кітая». Гэты творчы праект, распачаты ў 2014 годзе, мае адметную гісторыю. Раней пабачылі свет кнігі паэзіі Ван Вэя, Ду Фу, Лі Бо, Ай Ціна, Лі Цінчжаа, Лі Хэ. У зборніках прадстаўлены пераклады Уладзіміра Дубоўкі, Рыгора Барадуліна, Навума Гальпяровіча, Міколы Мятліцкага, Анэлі Тулупавай, Валянціны Коўтун, Яўгеніі Янішчыц, Таццяны Сівец, Рагнеда Малахоўскага, Валерыі Радунь і іншых беларускіх творцаў.

Ван Гачжэнь, які зусім нядаўна пайшоў з жыцця, — адзін з самых папулярных паэтаў сённяшняга Кітая. Агульны наклад яго кніг на роднай мове складае болей як дзевяць мільёнаў (!) экзэмпляраў. Як па сённяшнім часе, то ўвогуле прыклад унікальны, нягледзячы нават на вялікую прастору кітайскага слова. На прэзентацыі развагамі пра кітайскую літаратуру і ўвогуле пра беларуска-кітайскія стасункі падзяліліся дырэктар Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Анатоль Тозік, намеснік дырэктара гэтай жа ўстановы спадарыня Лю Сулін, паэты Леанід Дранько-Майсюк, Навум Гальпяровіч, Юлія Алейчанка (яна і вяла імпрэзу), Дар'я Нечыпарук, Таццяна Сівец, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч і інш. Да прэзентацыі была разгорнута выстаўка графічных работ Каміля Камала, які аформiў свалімі ілюстрацыямі беларускі зборнік Ван Гачжэня.



Фота БелТА.

Цікавай згадкай падаўся ўспамін Леаніда Дранько-Майсюка, які расказаў пра сустрэчу ў Маскве з рускай пісьменніцай Лідзіяй Абуховай, чый раман пра Давыд-Гарадок — «Глыбінь-гарадок» — быў выдадзены ў свой час на кітайскай мове. Дарэчы, гэтая згадка падказала яшчэ адну тэму: варта было б нейкім чынам сабраць інфармацыю пра ўсе адкрыцці беларускімі пісьменнікамі, ураджэнцамі Беларусі Кітая. Бо кожны прывозіў з Паднябеснай свае ўражанні, уласнымі адкрыццямі расказваў чытачу пра Кітай і кітайскую культуру. А ў Пекіне, Шанхаі, Урумчы, ды іншых гарадах пабывалі шмат хто з вядомых у Беларусі мастакоў слова — паэтаў, празаікаў, перакладчыкаў, літаратуразнаўцаў, журналістаў: Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч, Анатоль Вярцінскі, Міхась Шэлехаў, Аляксандр Дракахруст, Навум Гальпяровіч, Дар'я Нечыпарук, Алена Раманоўская, Алесь Кажадуб, Валерый Казакоў, Ганна Холева, Вольга Гальпяровіч і інш. Іх памяткі — вершы, нарысы, дзённікавыя запісы — якраз і маглі б скласці такую вось адмысловую кнігу пра Кітай. А самаму шырокаму колу чытачоў дапамаглі б уявіць Кітай і кітайцаў, іх псіхалогію, глыбіні іх жыццёвых каардынат. Варта памятаць і пра тое, што ў розныя гады ў Кітаі пабывалі жывапісцы, скульптары, графікі з Беларусі: Кандрат Карсалін, Сяргей Каткоў, Сяргей Селіханаў, Аляксандр Фінскі, Уладзімір Слабодчыкаў... Іх карціны, малюнкі, скульптуры, звязаныя з Паднябеснай, — гэта і ўяўленні беларусаў пра іншы далёкі і ў адначассе блізкі свет.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# ПРАЎЛЕННЕ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

1. Алейчанка Юлія Аляксандраўна, паэтэса, загадчык аддзела паэзіі часопіса «Полымя»
2. Анцух Лілііяна Фёдараўна, публіцыст, дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці»
3. Аўруцін Анатоль Юр'евіч, паэт, галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная»
4. Бадак Аляксандр Мікалаевіч, дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура»
5. Бандарэнка Вячаслаў Васільевіч, празаік, тэлежурналіст
6. Башлакоў Міхаіл Захаравіч, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
7. Вялічка Уладзімір Паўлавіч, публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, заслужаны дзеяч культуры РБ, галоўны рэдактар часопіса «Белая вежа»
8. Гальпяровіч Навум Якаўлевіч, паэт
9. Гаўрыловіч Уладзімір Мікалаевіч, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення ГА «СПБ»
10. Гігін Вадзім Францавіч, публіцыст, тэлевядучы
11. Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч, празаік, акадэмік НАН Беларусі
12. Голубева Наталля Аляксандраўна, празаік, драматург, лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі
13. Грышкавец Валерый Фёдаравіч, паэт, перакладчык, лаўрэат літаратурнага конкурсу «Залаты купідон»
14. Гусачэнка Тамара Іванаўна, паэтэса, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення ГА «СПБ», лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі
15. Давідовіч Сяргей Фёдаравіч, паэт, лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі
16. Дарашэвіч Уладзімір Мікалаевіч, публіцыст
17. Дзялендзік Анатоль Андрэевіч, драматург, заслужаны дзеяч мастацтваў РБ
18. Дукса Мар'ян Мікалаевіч, паэт, лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі
19. Дуктаў Уладзімір Уладзіміравіч, празаік
20. Зэкаў Анатоль Мікалаевіч, паэт
21. Казека Аляксандр Мікалаевіч, паэт, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення ГА «СПБ»
22. Камейша Казімір Вікенцьевіч, паэт, лаўрэат літаратурнага конкурсу «Залаты купідон»
23. Карлюкевіч Аляксандр Мікалаевіч, празаік, публіцыст, старшыня Мінскага абласнога аддзялення ГА «СПБ», дырэктар Выдавецкага дома «Звязда», лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне», лаўрэат прэміі СНД «Зоркі садружнасці»
24. Карызна Уладзімір Іванавіч, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, заслужаны дзеяч культуры
25. Касцючэнка Наталія Мікалаеўна, празаік
26. Кебіч Людміла Антонаўна, паэтэса, старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення ГА «СПБ»
27. Крэйдзіч Анатоль Мікалаевіч, празаік, публіцыст, намеснік старшыні ГА «СПБ»
28. Лапцёнак Ігар Мікалаевіч, перакладчык
29. Латышкевіч Маргарыта Юр'еўна, паэтэса, рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць»
30. Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка»
31. Мазго Уладзімір Мінавіч, паэт, лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі
32. Максімовіч Валерый Аляксандравіч, паэт, літаратурны крытык, доктар філалагічных навук
33. Марозаў Дзмітрый Дзмітрыевіч, паэт, празаік
34. Марціновіч Аляксандр Андрэевіч, літаратурны крытык, празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
35. Марчук Георгій Васільевіч, празаік, драматург, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
36. Мачульскі Уладзіслаў Антонавіч, генеральны дырэктар Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду
37. Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч, паэт, перакладчык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
38. Навумовіч Уладзімір Аляксандравіч, празаік, публіцыст, кандыдат філалагічных навук
39. Нікольская Вольга Уладзіміраўна, празаік, рэдактар Беларускага радыё
40. Падліпская Зоя Іванаўна, паэтэса, галоўны рэдактар часопіса «Роднае слова»
41. Пазнякоў Міхаіл Паўлавіч, паэт, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення ГА «СПБ», лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў РБ
42. Паліканіна Валянціна Пятроўна, паэтэса, лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта РБ, лаўрэат літаратурнага конкурсу «Залаты купідон»
43. Папова Алена Георгіеўна, драматург
44. Пашкоў Генадзь Пятровіч, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ, заслужаны дзеяч культуры
45. Праўдзін Віктар Аляксандравіч, празаік, лаўрэат літаратурнага конкурсу «Залаты купідон»
46. Прыгодзіч Зіновій Кірылавіч, празаік, галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня», лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў РБ
47. Саверчанка Іван Васільевіч, доктар філалагічных навук, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі
48. Саламаха Уладзімір Пятровіч, празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
49. Стэльмах Алена Анатольеўна, празаік, намеснік старшыні ГА «СПБ»
50. Сульянаў Анатоль Канстанцінавіч, празаік
51. Трахімёнак Сяргей Аляксандравіч, празаік, доктар юрыдычных навук
52. Цыбульскі Канстанцін Пятровіч, паэт
53. Чайка Ніна Цімафееўна, публіцыст
54. Чаргінец Мікалай Іванавіч, празаік, заслужаны дзеяч культуры, лаўрэат прэміі СНД «Зоркі садружнасці»
55. Чарота Аляксей Іванавіч, галоўны рэдактар часопіса «Нёман»
56. Чарота Іван Аляксеевіч, літаратуразнаўца, перакладчык, доктар філалагічных навук
57. Чудаў Валерый Іванавіч, празаік
58. Шабовіч Мікалай Віктаравіч, паэт, перакладчык, кандыдат філалагічных навук
59. Шамякіна Таццяна Іванаўна, празаік, публіцыст, доктар філалагічных навук, загадчык кафедры БДУ
60. Шніп Віктар Анатольевіч, паэт, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне»
61. Шырко Васіль Аляксандравіч, празаік, публіцыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ
62. Юркін Іван Захаравіч, паэт, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі
63. Явіч Яна Паўлаўна, паэтэса, празаік



# Акцыя!

**Кніга з аўтографам у падарунак ад «ЛіМа»**

Рэдакцыя газеты «ЛіМ» і Выдавецкі дом «Звязда» разыгрываюць сярод бібліятэк-падпісчыц 100 асобнікаў кніг беларускіх пісьменнікаў і паэтаў з аўтографамі аўтараў. Узяць удзел у акцыі вельмі проста: як мага хутчэй падпісацца на газету, даслаць копію пасведчання пра падпіску нам на пошту (электронную скрыню) і папоўніць свае палічкі новымі беларускімі кнігамі з дарчымі надпісамі!

*Больш падрабязна пра акцыю — у наступным нумары.*

# Сонца ў вокнах Багдановіча

Славутая батлейка засталася. Акрамя тэатралізаваных прадстаўленняў у адмысловай зале будуць ладзіцца літаратурныя імпрэзы, музейна-педагагічныя заняткі для дзяцей. Дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Дзмітрый Яцкевіч распавёў: распрацоўваецца адмысловая праграма на час Калядаў, прычым імпрэзы пройдуць і ў музеі Максіма Багдановіча.

У ліку запрошаных на ўрачыстае адкрыццё «Беларускай хаткі» — яе колішні загадчык, паэт Эдуард Акулін, мастак Эдуард Агуновіч, дырэктар Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Аляксандр Лакотка. Для першых наведнікаў музея зладзяць аглядную экскурсію і батлеечнае прадстаўленне, а ў 11.30 на тэрыторыі Храма Усіх Святых будзе закладзеная капсула, у якой захоўваецца зямля з месца пахавання Максіма Багдановіча.

**Наста ГРЫШЧУК**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**



*Фота Кастуся Дробава.*

*Абноўленую экспазіцыю літаратурнага музея М. Багдановіча прэзентуе загадчык установы Марына Запартыка.*

# «Апокрыф»: беларуская сакральнасць

**Кароткі твор Багдановіча стаў музычнай драмай.**

Кампазітар Ларыса Сімаковіч не проста прачытала Багдановіча, а выявіла драму, што схаваная за метафарычнасцю і таямнічасцю яго вобразаў: яны існуюць па-за эпохамі і дагэтуль, ці не таму што неразгаданыя да канца? Ёсць яшчэ адзін шанец: 10 снежня ў вялікай зале Белдзяржфілармоніі мюзікл «Апокрыф», другая рэдакцыя твора.

**Яго аўтар Ларыса Сімаковіч тлумачыць:**

— Прайшло 5 гадоў пасля першай рэдакцыі, на адлегласці шмат што ўспрымаецца інакш. Тым больш, што я пісала «Апокрыф» не дзякуючы, а насуперак: была ў вельмі сціслых тэрмінах, перажывала непрыемную сітуацыю на працы, ад чаго было вельмі горка. А ў «Апокрыфе» ёсць неверагодна светлае месца (і не адно)... Прыпавесць напісана на дзвюх старонках. У ёй няма драматургічнага канфлікту, да якога мы ўсе прывыклі, — сюжэтнага. Але ж на гэта можна паглядзець шырэй. Мюзікл паўстае як музычная драма ў нашым варыянце: гінуць васількі. Хіба гэта не трагедыя? Ды і сённяшні тэатр дазваляе ўбачыць канфлікт не толькі на сцэне, але і той, што адбываецца ў рэальнасці. Канфлікт можа выносіцца вонкі, а не быць абмежаваны толькі сцэнай. У мяне нарадзілася гэтая думка падчас працы над другой рэдакцыяй. Яна больш складаная, чым першая, гэта адзначыў Міхаіл Казінец, дырыжор Нацыянальнага акадэмічнага аркестра народных інструментаў імя Жыновіча, які будзе выконваць твор другі раз, і падчас рэпетыцый я адчувала, што аркестр нібыта ўзлятаў. Для мяне важна, што Багдановіч «лііецца». А некаторыя моманты я пастаралася ўзмацніць, каб яны гучалі як дасланні.

Дасланні ад Багдановіча. Аўтар музыкі агучыла: Хрыста з прыпавесці — голасам магутнага хору. Гэта падкрэслівае прасторавую прысутнасць: поле, жыта, каласы… Народ, які жне (яго ўвасабляюць аўтэнтычныя спевы), герой-Музыка. Сустрэча з апосталамі і сутнасць прыпавесці ад Пятра: нашто каласы, калі няма між іх васількоў?..

Дзякуючы «Апокрыфу» (прыпавесць стала музычным творам працягласцю ў гадзіну) у нас ёсць магчымасць сустрэчы з Багдановічам дзеля разумення: нашто ў наш час выгод і карысці тыя васількі?..

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Паміж тэатрам і паэзіяй

Ад 29 лістапада ў рамках праекта «Чытаем Багдановіча разам» артысты РТДБ ды студэнты тэатральнай школы Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Тэатра» штодня дэкламавалі вершы беларускага класіка. На ***youtube***-канале РТДБ можна ўбачыць відэаролікі з выкананнем вядомых вершаў «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...», "Страцім-лебедзь», "У краіне светлай, дзе я ўміраю», «Народ, беларускі Народ!» ды іншых.

— Ідэя ўшанаваць творчасць Максіма Багдановіча належыць акцёру Максіму Брагінцу, — распавяла прэс-сакратар РТДБ Святлана Латышава. — Калектыў нашага тэатра падтрымаў яго прапанову і распрацаваў праграму выступаў аж да 9 снежня — дня народзінаў паэта.

У юбілейны дзень наведвальнікаў тэатра беларускай драматургіі чакае спектакль «Дзённік паэта» ў дзвюх частках. Першая — біяграфічная — заснаваная на фактах з жыцця Максіма Багдановіча ў Ялце, другая — інтымная — датычыцца асабістага дзённіка паэта. Асабістыя пытанні закранае і сустрэча з паэтэсай і перакладчыцай Нінай Дзябольскай. За гадзіну да спектакля гледачы атрымаюць рэдкую магчымасць паразмаўляць з роднай пляменніцай Дзіядора Дзябольскага, яраслаўскага сябра Максіма Багдановіча. Дзядзька расказваў шмат гісторый пра класіка беларускай літаратуры, і постаць паэта так зацікавіла Ніну Дзябольскую, што яна пачала вывучаць яго творчасць і нават пераклала кнігу вершаў Багдановіча на французскую мову. Менавіта ў арт-прасторы РТБД 9 снежня адбудзецца першая прэзентацыя кнігі ў Беларусі, дзе аматары творчасці паэта могуць набыць асобнік з аўтографам перакладчыцы. Падчас імпрэзы акцёры РТБД будуць чытаць вершы Багдановіча на беларускай і французскай мовах. Для гледачоў працуе так званы «адкрыты мікрафон» — кожны зможа прадэкламаваць любімы твор Багдановіча.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**12 снежня** *— на другі тур конкурсу чытальнікаў беларускай паэзіі ў Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5, Мемарыяльная зала). Пачатак у 14.30.*

**13 снежня** *— на прэзентацыю кнігі паэтэсы і перакладчыцы Іны Фраловай «Белы бераг» у Цэнтральную мінскую гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**14 снежня** *— на ўрачыстае падвядзенне вынікаў творчага конкурсу сярод маладых паэтаў у актавую залу гасцініцы «Вікторыя-2» (пр. Пераможцаў, 59а). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**15 снежня** *— у літаратурную гасцёўню выхаваўча-аздараўленчага цэнтра «Лідар» на творчую сустрэчу з пісьменніцай Ганнай Александровіч. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**15 снежня** *— на прэзентацыю кнігі празаіка Міхаіла Уцеўскага "Дерево жизни зеленеет" у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**15 снежня** *— на прэзентацыю зборніка вершаў паэтэсы Людмілы Клачко «Чертополох» у галерэю «Прадмесце» (вул. Старажоўская, 6). Пачатак а 19-й гадзіне.*

**16 снежня** *— на паэтычна-музычную імпрэзу ў публічную бібліятэку № 8 імя Максіма Багдановіча (вул. Даўгабродская, 12а). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**16 снежня** *— на юбілейную імпрэзу паэта Рыгора Сарокі ў Мемарыяльную залу Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**16 снежня** *— у літаратурны клуб «Аўтограф» (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з паэтэсай і бардам Ганнай Чумаковай. Пачатак а 16-й гадзіне.*

## Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**18 снежня** *— на «Калядныя сустрэчы» народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца» (кіраўнік — сябар СПБ Ірына Карнаухава) пры Мінскім абласным цэнтры народнай творчасці (вул. Гікалы, 4). Пачатак а 10-й гадзіне.*

## Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**15 снежня** *— на літаратурна-музычны вечар «Светлы след будзе вечна жывым», прысвечаны 125-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча, у Віцебскую гарадскую бібліятэку ім. М. Багдановіча (вул. Берасценя, 6). Пачатак а 16-й гадзіне.*

## Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**12 снежня** *— на ўрачыстую вечарыну «Я хацеў бы спаткацца з вамі…» да 125-годдзя Максіма Багдановіча ў ГрДУ імя Я. Купалы (г. Гродна, вул. Леніна, 32, актавая зала). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**13 снежня** *— на літаратурнае свята «Зорка Максіма» да 125-годдзя Максіма Багдановіча ў ГрДУ імя Я. Купалы (г. Гродна, вул. Леніна, 32, аўд. 3). Пачатак у 11.30.*

**13 снежня** *— на літаратурную сустрэчу «Віктар Кудлачоў і яго сябры па жыцці» ў бібліятэку Гродзенскага філіяла Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (г. Гродна, вул. Дзяржынскага, 98). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**14 снежня** *— на музычна-паэтычную вечарыну «Пясняр самотны вечнае красы» да 125-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча ў Гродзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці (г. Гродна, вул. Савецкая, 8). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**15 снежня** *– на арт-праект «Нязгасная зорка на беларускім небасхіле» да 125-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча з удзелам літаратуразнаўцы, паэтэсы Аліны Сабуць ды аўтара і выканаўцы песень Аляксандра Закрэўскага ў Мастоўскую раённую бібліятэку (Гродзенская вобласць, г. Масты, вул. Савецкая, 19а). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказвае глыбокія спачуванні супрацоўніку апарату Саюза пісьменнікаў Беларусі Андрэю Тарасавічу БАБКУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці маці.**

**III з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі ўжо стаў гісторыяй. Але яго падзеі і асноўныя тэмы і цяпер абмяркоўваюцца ў супольнасці пісьменнікаў і асоб, што цікавіцца не толькі літаратурай, але і тым, як адлюстроўваецца наша сучаснае жыццё ў мастацкай творчасці і культуры наогул, таму што ўсё гэта складнікі адной з'явы, розныя праявы існавання народа, аб'яднанага ў межах адной краіны. Менавіта клопатам пра яе будучыню тлумачацца выступленні, што гучалі падчас з'езда, — гэта словы неабыякавых да таго, што адбываецца ў грамадстве, і зацікаўленых у яго развіцці. Роля інтэлектуальнай эліты, у тым ліку пісьменнікаў, — вызначаць кірункі, аглядаць шлях, бачыць і прадухіляць хібы, якія могуць перашкаджаць руху наперад. А таксама ў тым, каб асэнсаваць наша гістарычнае мінулае і асаблівасці менталітэту беларускага народа, таму што з гэтага вынікаюць яго прыярытэты і прынцыпы, імі абумоўлены мадэлі паводзінаў людзей у грамадстве і пабудова самога грамадства. Таму шмат хто з выступоўцаў агучваў пытанні, актуальныя не толькі для літаратараў. Пытанням надавалі грамадскае і нават дзяржаўнае гучанне. Некаторыя тэмы, узнятыя на з'ездзе, знойдуць працяг у кнігах, будуць агучвацца на сустрэчах і літаратурных імпрэзах, на старонках перыядычных выданняў. На асобных тэмах мы робім акцэнт сёння.**

# Дзеля кансалідацыі і адзінства краіны

За апошнія часы ў Інстытуце літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі праведзена значная праца, накіраваная на развіццё літаратуразнаўчай навукі (гісторыі і тэорыі літаратуры, тэксталогіі і кампаратывістыкі), літаратурнай крытыкі і мастацкай літаратуры.

Надзейны грунт устойлівага духоўна-культурнага развіцця краіны — літаратурная класіка. Менавіта таму акадэмічныя тэкстолагі паспяхова завяршылі выданне 20-томнага збору твораў Якуба Коласа і 13-томнага збору твораў Максіма Танка. Цяпер навукоўцы распачалі падрыхтоўку поўнага збору твораў Янкі Брыля.

Акадэмічны Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы паспяхова каардынуе найбольш прэстыжную агульнанацыянальную кніжную серыю — «Залатая калекцыя беларускай літаратуры. У 50 тт.».

Ужо выдадзена 13 тамоў і зараз працягваецца напружаная праца па падрыхтоўцы астатніх кніг. Варта падкрэсліць: поўныя зборы твораў класікаў і шматтомныя серыйныя выданні нацыянальнай літаратуры — капітальныя праекты, якія маюць агульнадзяржаўнае і міжнароднае значэнне.

Кіруючыся ўсведамленнем высокай місіі нацыянальнай літаратуры, супрацоўнікі Інстытута ў поўным аб'ёме выканалі даручэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі ад 15.05.2006 № 177рп «Аб увекавечанні памяці народнага пісьменніка Беларусі Шамякіна Івана Пятровіча». На высокім навуковым узроўні выдадзены 23 тамы літаратурнай спадчыны Івана Шамякіна, што запатрабавала значных прафесіянальных высілкаў і адказнай філалагічнай працы.

Інстытутам літаратуразнаўства паспяхова выконвацца пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 15.08.2008 № 1171 «Аб увекавечанні памяці акадэміка, народнага пісьменніка Навуменкі Івана Якаўлевіча». Завершана работа па падрыхтоўцы матэрыялаў усіх тамоў 10-томнага збору твораў Івана Навуменкі, на дадзены момант ужо выйшлі з друку 7 тамоў спадчыны пісьменніка.

Пры Інстытуце літаратуразнаўства імя Янкі Купалы стала працуе савет па абароне дысертацый. Мы рыхтуем кадры вышэйшай кваліфікацыі — кандыдатаў і дактароў навук, прычым не толькі для свайго інстытута, але практычна для ўсіх вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі.

Міністэрства культуры рэгулярна накіроўвае на экспертызу ў акадэмічны Інстытут літаратуразнаўства кнігі аўтараў, якія прэтэндуюць на статус творчага работніка. У экспертызы аналітычны характар. І вынікі для прэтэндэнтаў не заўсёды станоўчыя. У якасці экспертаў выступаюць найбольш адказныя супрацоўнікі інстытута: Алена Вальчук, Алесь Лапата-Загорскі, Яўген Гарадніцкі, Аляксандр Бараноўскі, Ігар Шаладонаў, Алена Манкевіч.



Значнае месца ў дзейнасці супрацоўнікаў Інстытута традыцыйна займае папулярызацыя лепшых дасягненняў мастацкай літаратуры. Вучоныя рэгулярна выступаюць на культурных мерапрыемствах, якія ладзіць Міністэрства інфармацыі: прэзентацыі кніг, фестывалі, мерапрыемствы дзяржаўнага ўзроўню (Дзень беларускага пісьменства), а таксама на радыё і тэлебачанні (канал «Культура»). Сярод найбольш актыўных літаратуразнаўцаў — Тацяна Мацюхіна, Серж Мінскевіч, Таццяна Барысюк, Алена Васілевіч, Мікалай Мікуліч.

На парадку дня — стварэнне ў Інстытуце літаратуразнаўства спецыяльнага аддзела літаратурнай крытыкі, галоўная мэта якога — вывучэнне канкрэтных фактаў і шматлікіх праяў сучаснага літаратурнага працэсу, класіфікацыя і тыпалагізацыя актуальных фактаў, аналіз падзей творчага жыцця ў шырокім кантэксце гісторыі культуры; даследаванне сучаснага літаратурнага працэсу як дынамічнай сістэмы. Крытыкі, якія працуюць у інстытуце, — кваліфікаваныя эксперты. Пісьменнікі прыслухоўваюцца да іх канструктыўных парад і пажаданняў, улічваюць у творчасці.

Прыкметныя здабыткі калектыву Інстытута літаратуразнаўства імя Я. Купалы мае ў справе ўзнаўлення нашай пісьмовай спадчыны X — XVIII стст. Намі апублікаваны (на мове арыгіналаў і ў перакладах) творы выдатных майстроў слова старажытнага часу — Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Афанасія Філіповіча, Сімяона Полацкага, а таксама летапісныя аповесці і хронікі, помнікі мемуарнай і жыційнай літаратуры. Да найбольш значных належаць выданні: «Беларуская літаратура X — XV стст.», «Беларуская літаратура XVI ст.», «Рэлігійнае пісьменства кірылічнай традыцыі XI — XV стст.», «Летапісы і хронікі Вялікага Княства Літоўскага (XV — XVII стст.)», «Памятники литературы Беларуси X — VIII вв.».

Зробленыя навуковымі супрацоўнікамі Інстытута публікацыі помнікаў старадаўняга пісьменства і літаратуры набываюць асаблівую актуальнасць у сувязі з набліжэннем 500-гадовага юбілею беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, які шырокая грамадскасць пачне адзначаць у наступным 2017 г.

У даследаваннях акадэмічных філолагаў аўтарытэтна даказана, што Беларусь у мінулыя часы мела надзвычай багатую кніжную культуру, якая сведчыць пра глыбінныя вытокі нашага прыгожага пісьменства. Надзвычай важна скарыстаць буйную юбілейную дату і правесці ў рэгіёнах рэспублікі серыю мерапрыемстваў: літаратурныя чытанні, круглыя сталы, прэзентацыі і канферэнцыі. Дзеля дасягнення максімальнага эфекту варта аб'яднаць намаганні супрацоўнікаў акадэмічнага інстытута (у нас працуе 26 кандыдатаў і 5 дактароў навук), Саюза пісьменнікаў Беларусі і выкладчыкаў літаратуры розных узроўняў. Праца з рэгіёнамі дапаможа выхаванню мастацка-эстэтычных густаў, асабліва моладзі, паспрыяе павышэнню аўтарытэту літаратуры сярод шырокіх колаў грамадства. У палітычным плане супрацоўніцтва паслужыць справе кансалідацыі і адзінства краіны.

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар, член Прэзідыума СПБ**

# Павелічальнае шкло чалавеказнаўства



У любімай мной і, магчыма, шматлікімі чытачамі, аповесці вялікага рускага пісьменніка Канстанціна Паўстоўскага «Залатая ружа» ёсць такія словы: «Для пісьменніка поўная радасць надыдзе толькі тады, калі ён пераканаецца, што сумленне яго знаходзіцца ў адпаведнасці з сумленнем блізкіх». Гэтая цытата з Салтыкова-Шчадрына. Яна — эпіграф да аднаго з раздзелаў аповесці — «Надпіс на валунах».

Хіба не радасці, не шчасплівых імгненняў шукаем мы, шукаюць паэты, празаікі, судакранаючыся з жыццём, з яго драматычнымі і звычайнымі калізіямі?!

Але ж, аглядаючы старонкі нашых літаратурных выданняў, уніклівa ўзіраючыся ў прыхаваныя пад кардоннымі і нежывымі вокладкамі мастацкія вобразы, я ўсё ж вяртаюся ў палон беларускага мастацкага свету. Чытаю напісанае аўтарам «Хатынскай аповесці», аўтарам «Блакаднай кнігі», аўтарам кнігі-споведзі «Я — з вогненнай вёскі» Алесем Адамовічам: «У дзённікавых запісах К. Чорнага ад 10 верасня 1944 г. ёсць здзеклівая заўвага пра некаторых літаратараў, якія скардзяцца, што "няма пра што пісаць" і якім толькі і застаецца смакаваць свае прэсныя "літаратурныя знаходкі".

"І гэта ў той час, — працягвае Алесь Адамовіч, — калі перад кожным — рэальнае жыццё яго народа, яго час!

Трэба толькі ўмець гэта бачыць. Бо для некаторых, кажа Чорны, "... — гэта той самы мужык, які толькі згаліў бараду, дзе, хто мае вочы, убачыць і значыць і знойдзе і Эжэні Грандэ, і Івана Карамазава, і Андрэя Балконскага..."

Глядзець на сваё скрозь павелічальнаешкло сусветнай культуры чалавеказнаўства — вось што патрэбна літаратару. Тады толькі і ўзнікае тое, што мы называем літаратурнымі тыпамі, а тым больш — тыпамі сусветнага гучання».

Сапраўды, што можа быць большай звышзадачай, чым перакананне Алеся Адамовіча, заснаванае на ўроках яго і нашых папярэднікаў: беларуская літаратура абавязана перад цэлым светам казаць сваё слова ад імя народа, якому ёсць што паведаміць чалавецтву не толькі пра сябе, але і пра само чалавецтва.

Зусім нядаўна мы ўсе разам былі сведкамі высокага форуму — V Усебеларускага народнага сходу, сведкамі і слухачамі праграмнага на гады выступлення нашага Прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Думаю, што ў памяці многіх засталіся як мастацкая, філасофская формула выказаныя на сходзе наступныя словы: «Чалавек, яго ініцыятыва, талент і прадпрымальніцтва павінны стаць галоўнай рухальнай сілай развіцця краіны».

Чалавек і краіна, беларус і ўвесь свет, наша міралюбства, якое сёння, на вялікі жаль, не падабаецца і тым, каму так патрэбен мір, — хіба ўсё гэта не павінна быць асновай мастацкіх і грамадзянскіх зацікаўленняў празаіка, паэта, драматурга, ды нават дзіцячага пісьменніка?

У адной з праграм на тэлебачанні адзін з літаратараў заўважыў, што мала прэмій у нас як адзнак за пісьменніцкія здабыткі. Маўляў, дзяржаве трэба яшчэ паруліцца, каб усталяваць пэўныя ўзнагароды. Логіка зразумелая. Мы са сваімі творчымі амбіцыямі ўсе, літаральна кожны з нас, чакаем і прэмій, і ўзнагарод. Азіраючыся назад, успамінаю кожную з кніг лаўрэатаў Нацыянальнай літаратурнай прэміі за 2015, 2014 гады. Успамінаю як чытач кніг Уладзіміра Саламахі, Мар'яна Дуксы, Сяргея Давідовіча, Алеся Марціновіча, Сяргея Клімковіча, Мікалая Барысенкі, Тамары Красновай-Гусачэнка і іншых творцаў, чые здабыткі заўсёды ў полі зроку, заўсёды прыцягваюць увагу. Менавіта іх плён, іх памкненні — яркі, рэльефны зрэз сённяшняга літаратурнага працэсу. Пройдзе пэўны адрэзак часу — і да гэтых імёнаў дададуцца новыя творцы з кнігамі, магчыма, не менш цікавымі і важнымі. Упэўнены, чытач у сучаснай літаратуры, якую мы ўсе супольна ствараем, ёсць. Будзе ён і надалей. Але не след нам забывацца, што чытач гэты — асоба патрабавальная, здольная да вострых, прамалінейных, сумленных ацэнак. Калі мы гэта ўлічым, будзем разумець штодня, будзем кіравацца гэтым перакананнем у штодзённай творчай рабоце, то і прэмій будзе шматкроць болей, і ўвага дзяржавы і грамадства нас не абміне. А галоўнае — сумленне, светлыя і чыстыя памкненні дазволяць рухацца, ісці наперад, заваёўваць новыя мастацкія вышыні.

А ў наступным, 2017, годзе мастацкая літаратурная праца сімвалічна адказная. Наша краіна будзе адзначаць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання.

Да гэтага, да вышынь, відавочна, імкнёмся ўсе мы, імкнецца наш Саюз пісьменнікаў Беларусі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

# Неаранае поле дзейнасці

**Для мяне вялікі гонар працаваць у адмысловым рэгіёне, на Віцебшчыне, якая дала свету такія імёны, як Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Сімяон Полацкі, Васіль Быкаў, Пятрусь Броўка, Еўдакія Лось, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін і іншыя.**



У нас дружная абласная арганізацыя, якая ў большасці складаецца з самаадданых літаратараў, яны з разуменнем ставяцца да рэалій часу. Ніхто нічога не патрабуе для сябе асабіста, усё разумеюць і падтрымліваюць любыя ініцыятывы, у асноўным за ўласныя сродкі або з дапамогай спонсараў выдаюць свае кнігі, актыўна прапагандуюць айчынную літаратуру. Гэта сапраўдныя патрыёты краіны, якія пацвярджаюць сваім жыццём ісціну, што пісьменнік — заўсёды самаахвяраванне.

На з'ездах прынята абмяркоўваць стратэгічныя пытанні. Нагадаю старую прыпавесць. Аднаго мудраца спыталі: «Чым доўга мы будзем чакаць лепшага жыцця?» Мудрэц адказаў: «Калі чакаць, то доўга». Так што ж можа зрабіць пісьменнік для набліжэння лепшай будучыні? Адказ просты: пісаць добрую кнігу. Праўдзівую. Рэалістычную. Словам стварыць такія вобразы, якія «працавалі» б не адно пакаленне. Менавіта літаратура дае магчымасць ненадакучліва ўвасабляць у жыццё духоўныя арыенціры, неабходныя для росквіту дзяржавы. Праз літаратуру грамадства і дзяржава заўсёды атрымлівала чароўнае люстэрка, якое паказвала, што трэба выпраўляць і на што востра рэагаваць. На форуме прадстаўнікоў СМІ, які прайшоў нядаўна, у выступе нашага прэзідэнта гучалі ключавыя словы: «У аснове ўсяго — жывое Слова», там жа былі пазначаныя асноўныя жыццёвыя прынцыпы, без ведання якіх пісьменнік проста не можа быць пісьменнікам.

Сёння асабліва злабадзённыя тэмы пра вялікую сілу слоў, пра тое, як апярэдзіць, каб сацыяльныя сеткі не зводзілі чытача ў негатыў. На з'ездзе Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Ігар Бузоўскі падкрэсліў: «Голас творчай эліты павінен гучаць мацней у адстойванні каштоўнасцей і ідэалаў сваёй краіны, якія гістарычна скlaліся. Бо адстойванне каштоўнасцей і ідэалаў — гэта ў тым ліку і адстойванне незалежнасці дзяржавы». Вось яно, наша неаранае поле дзейнасці.

Неаранае, таму што немагчыма не прызнаць, што поспехі літаратуры сёння зусім невялікія. А яе дэпалітызацыя спрыяе драбненню мастацкіх вобразаў. Яшчэ чвэрць стагоддзя таму, на 7-м з'ездзе Саюза пісьменнікаў Расіі, Ю. Кузняцоў, асэнсоўваючы місію паэта, нагадваў пра дзяржаўнасць паэтычнага мыслення прарочымі словамі Блока, які ў пачатку стагоддзя пісаў: «Быць па-за палітыкай... — баяцца яе, хавацца ад яе, замыкацца ў эстэтызм і індывідуалізм?.. З якой нагоды? Той, хто хаваецца ад праблем сваёй дзяржавы, разбурае музыку быцця, і яго творчасць аказваецца непаўнагучнай...» Можа быць, у гэтым корань нашых пісьменніцкіх праблем? Таму што ўсё ўзаемазвязана. Няма твораў з глабальнымі задачамі і эпахальнымі вобразамі — змяншаецца роля літаратуры.

Якія ж найбольш вострыя праблемы мы маем?

**1. Зніжэнне ўвагі да літаратуры і чытання наогул.** Хіба мы не назіраем выцясненне нашых аўтараў-патрыётаў з прасторы сусветнага культурнага жыцця? Нобелеўскімі лаўрэатамі робяць ужо рок-спевакоў. Ці гэта сведчыць пра палітызаваныя працэсы, накіраваныя на знішчэнне ролі літаратуры на сусветнай арэне?

**2. Падзенне пісьменніцкага статусу.** Пісьменнік, на жаль, не можа літаратурнай працай зарабіць ні на жыццё, ні на выданне кнігі.

**3. Драбненне мастацкіх вобразаў у літаратуры.** Шэдэўры са створанага ўспамінаюцца з цяжкасцю, а вал графаманскай друкаванай прадукцыі расце. Да таго ж творы і мастацкія вобразы маюць патрэбу ў прапагандзе, інакш адкуль яны будуць вядомыя? Магчымасці ж і механізмы прапаганды ў руках — у непадуладных Саюзу пісьменнікаў структур (ТБ, інтэрнэт, друк і г.д.).

**4. Падзел пісьменнікаў на кланы (свой/чужы).** Напрыклад, выдаецца вядомая акадэмічная праца «Рускамоўная паэзія ў Беларусі», рэкамендавана да вывучэння творчасць рускамоўных паэтаў: Давіда Сімановіча, Навума Кісліка, Веньяміна Айзенштата і інш. Але няма вядомых імёнаў добрых паэтаў, якіх таксама называюць «рускамоўнымі»: Міхаіла Шэлехава, Таццяны Дашкевіч, Андрэя Скарынкіна, Мікалая Наменснікава і іншых. Але ж аб'ектыўныя, добразычлівыя аналітычныя даследаванні жыццёва важныя і для развіцця літаратуразнаўства ў Беларусі.

**5. Малая колькасць гадзін па літаратуры ў школьнай праграме.** У старэйшых класах на вывучэнне беларускай літаратуры — 1,5 гадзіны, рускай літаратуры — 1,5 у тыдзень.

**6. Літаратура нараджаецца і жыве сёння ва ўмовах падзення маралі.** Але я кажу пра літаратурнае жыццё. Незразумела, што за цікавасць у паэтаў да «цацак»? Імкненне любым шляхам займець пасведчанні членаў «акадэмій» — ад Пушкінскай да Акадэміі свабодных мастацтваў. Навошта? Каб размахваць імі. Хіба гэта павышае статус пісьменніка?! Акрамя таго, і нават найперш ёсць дзяржаўны інтарэс! Ён вышэй за ўсе інтарэсы як у літаратуры, так і ва ўсіх сферах жыцця. Вы скажаце: так было заўсёды. Адны — «акадэмікі», іншыя — качагары. І гэта, на жаль, праўда. Мікалай Рубцоў акадэмікам не быў, а ў кацельні працаваў. Быць мужным і сумленным пісьменнікам у наш час складана, ды і заўсёды так было, гэта практычна подзвіг. Вось да яго я вас і заклікаю. Бяручыся за пяро, будзем не толькі сумленныя, але і пільныя. Мы жывём у вельмі няпростых час. Мы не маем права забываць пранізлівыя радкі найярчэйшага паэта Аркадзя Куляшова:

*Я хаце абавязаны прапіскаю —*
*Калыскаю, падвешанай пад столь.*
*Я маці абавязан кожнай рыскаю,*
*Драўлянай лыжкаю, глінянай міскаю —*
*Усім, чым працы абавязан стол.*
*Я — матчын спеў, я — матчыны трывогі,*
*Я — матчын гнеў, які ўставаў на ногі,*
*Гнаў смерць на Захад — у нару з нары —*
*Траціаваю пугай перамогі.*
*Дыміліся сямі франтоў дарогі*
*За мной, як дынамітныя шнуры.*
*Пазбавіўшы ад грознага відовішча*
*Свет, не дазволю я, каб дым і пыл*
*Зямлю ператварылі ў бамбасховішча,*
*Мільярд прапісак — у маўклівы прысак,*
*Мільярд калысак — у мільярд магіл.*

Няўжо мы зможам здрадзіць гэтаму мужнаму завяшчанню паэта: як жыць і як пісаць?

**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА,**
**старшыня Віцебскага**
**абласнога аддзялення СПБ**

# Навучыць дзіця думаць

**Сёння ўсім, асабліва дзецям, неабходны маральныя апоры, чыстыя вытокі духоўнага жыцця. Менавіта ў дзяцінстве, калі фарміруюцца ўяўленні пра тое, што добра, а што дрэнна, закладваецца маральны фундамент асобы.**

Дзе шукаць дзіцяці гэтыя маральныя каштоўнасці, духоўныя ўзоры, як не ў добрай кнізе?

Часта бывае так, што кнігі, прачытаныя ў раннім дзяцінстве, вызначаюць погляды і каштоўнасці на ўсё жыццё. Кнігі для дзяцей уплываюць на фарміраванне характару і выхаванне. Любоў да чытання — вельмі карысная звычка, якую неабходна прывіваць з самага ранняга дзяцінства. Уся справа ў выбары кніг. Кнігі для дзяцей павінны быць крыніцай высокамастацкага, эстэтычнага, маральнага выхавання. На жаль, сёння на кніжных паліцах сустракаецца шмат дрэнных кніг і часопісаў для дзяцей і падлеткаў, якія прывабліваюць толькі яркімі вокладкамі і кідкімі назвамі. У лепшым выпадку, у такіх выданнях бескарысная, пустая інфармацыя, над якой не патрэбна разважаць. Напрыклад, у адным з часопісаў для падлеткаў мне сустрэліся артыкулы: татуіроўка — гэта крута, разважанне аб тым, што бацькі нічога не разумеюць, некалькі бязглуздых коміксаў і на тры старонкі топ-10 самых брыдкіх смакаценькаў кшталту пячэння з запечанымі восамі і смажаных смоўжыкаў… Ва ўсім часопісе я не знайшла ніводнай старонкі, якую б параіла прачытаць свайму дзіцяці. Гэтак жа бывае і з кнігамі. Напрыклад, прывабіла серыя кніг для дзяўчат-падлеткаў. Дастаткова было прабегчы вачыма колькі радкоў, пагартаць выданне, каб зразумець, што гэта кніга нагадвае гламурны глянцавы часопіс з парадамі, якой трэба быць, каб удала ўладкавацца ў жыцці. Такія кнігі і часопісы дзецям проста проціпаказаныя!

На жаль, сёння не ўсе адказна ставяцца да выбару твораў, якія прапаноўваюць дзецям. Так, літаральна тыдзень таму ў інтэрнэце вялікі розгалас атрымаў выпадак, калі ў дзіцячым садку выхавальніца дала пяцігадовай дзяўчынцы вывучыць верш да Дня маці. Называўся ён «Буду мамой холостой»:

*Все мамы скучно так живут —*
*Стирают, гладят, варят.*
*И их на елку не зовут,*
*Подарки им не дарят.*
*Когда я выросту большой,*
*Я тоже буду мамой,*
*Но только мамой холостой,*
*А не мужнячей дамой,*
*Куплю я новое пальто*
*Под цвет пунцовой шляпе*
*И никогда и ни за что*
*Я не женюсь на папе!*



У сённяшні няпросты час неабходна выхоўваць дзяцей на нашых спрадвечных каштоўнасцях, ярка акрэсліваць важную ролю сям'і, прычым, нармальнай традыцыйнай сям'і. Накіроўваць пакуль зусім юнае пакаленне на стварэнне ў будучыні сваёй сям'і, адной на ўсё жыццё, закладваць натуральнае жаданне мець дзяцей і адказна адносіцца да іх выхавання. Праз твор пісьменнік павінен развіваць пачуцці, выхоўваць у дзіцяці чалавечнасць, суперажыванне, уменне радавацца поспехам іншых.

Выдатна, калі пісьменніку ўласцівы добры мастацкі жарт, які выкарыстоўваецца для выхавання і развіцця ў чытачоў пачуцця гумару. На яркіх літаратурных прыкладах з дапамогай гумару дзіця хутчэй вылечваецца ад ляноты, упартасці, эгаізму. Галоўныя чалавечыя якасці ў дзіцяці фарміруюцца спакваля. Добра, калі пісьменнік не навязвае чытачу свайго меркавання, адкрыта не заклікае быць падобным да героя, але ўмела ўключае дзіця ў асэнсаванне дзеі.

Тэмы і праблемы, пра якія юны чытач даведаўся з твора, глыбей пранікаюць у дзіцячую душу, а любімыя героі надоўга застаюцца ў памяці. Дзіця перажывае за іх і разам з імі, ён іх любіць або не прымае, але ў любым выпадку не застаецца абыякавым. Кніга фарміруе эмацыйную сферу дзіцяці. З'яўляючыся суразмоўцам, дарадцам у справах, памочнікам у вырашэнні праблем.

Літаратура для дзяцей заклікаецца першапачаткова гаварыць з дзіцем пра тое, што такое ідэал і якія шляхі яго дасягнення, што такое вечная ісціна і як яе прытрымлівацца, што ёсць ісціны каштоўныя, а што — ілжывыя. Задача літаратуры — навучыць дзіця думаць над тым, што адбываецца вакол, аналізаваць і рабіць высновы.

Я ўжо многа гадоў працую ў школе. Магу сказаць, што дзеці мяняюцца, гэта відавочна. І так было заўсёды — пакаленні адрозніваюцца. Але нязменным застаецца тое, што ўсе яны цягнуцца да светлага, чыстага, добрага. Толькі трэба растлумачыць ім, маленькім, даверлівым, што ў жыцці ёсць што. Інструмент пісьменніка — слова. Творца павінен ствараць такія кнігі, якія дапамогуць юным чытачам вызначыць жыццёвыя прыярытэты: добра і дрэнна, высакароднасць і подласць, дабро і зло. І гэта асабліва важна ў дзіцячым і падлеткавым узросце, пры станаўленні характару, выбары маральных каштоўнасцей.

Я рада, што стала настаўніцай, што маю магчымасць займацца выхаваннем дзяцей. Я рада, што стала пісьменніцай і праз кнігі магу данесці да юных чытачоў нешта важнае і карыснае. Хачу адрасаваць словы падзякі Міністэрству інфармацыі, Міністэрству адукацыі, Мінаблвыканкаму, Саюзу пісьменнікаў і Мінскаму абласному аддзяленню ў прыватнасці за падтрымку дзіцячай літаратуры, за тое, што і ў сённяшнія няпростыя час выдаюцца цудоўныя кнігі для дзяцей і падлеткаў. Паверце, дзецям гэта патрэбна, і магу вас запэўніць: дзеці чытаюць.

Часта выступаю ў бібліятэках і школах, бачу і адчуваю зваротную рэакцыю самых шчырых чытачоў — дзяцей. Ім патрэбны новыя кнігі, яны рады бачыць жывых пісьменнікаў.

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ, пісьменніца**

# «Хай згадка згадку кліча, цягне…»

## Па архіўных слядах «Вянка»

**Беларусь святкуе 125-гадовы юбілей свайго выдатнага сына — паэта Максіма Багдановіча, які ўзбагаціў нашу літаратуру творамі выключнага ўзроўню, доказна сцвердзіўшы вобразна-выяўленчыя магчымасці роднай мовы і яе правы заняць пачэснае месца сярод самых паэтычных моў свету. З усёй творчай спадчыны Максіма Багдановіча знакавы яго адзіны прыжыццёвы зборнік «Вянок», праз які паэт з юначай шчырасцю прызнаецца ў вялікай любові Радзіме і свайму народу. «*Я не самотны, я кнігу маю*» — апошнія радкі паэта. Горка думаць, што «ў краіне светлай» ён паміраў у адзіноце, і суцешна, што да апошніх хвілін жыцця з ім была яго паэзія і яго кніга — яго працяг і яго несмяротнасць.**

Ці мог прадбачыць паэт лёс сваёй кнігі? Ці ўяўляўся яму чытач далёкай будучыні, які і праз стагоддзе, зачараваны хараством паэтычных радкоў, будзе імкнуцца разгадаць таямніцу яго высокіх пачуццяў?.. Сёння ў кожнага, хто цікавіцца асабістым і творчым лёсам М. Багдановіча, нават самая маленькая згадка пра яго і пра яго творы выклікае вялікае захапленне і змушае да новых пошукаў. І ёсць яшчэ дакументальныя крыніцы, якія варта даследаваць, углядвацца-ўчытвацца ў кожны іх радок, у кожнае слова. Такой крыніцай з'яўляецца фонд Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні, што захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Даследуючы гісторыю беларускай выдавецкай справы па матэрыялах згаданага фонду, выкліках увагу вельмі цікавы дакумент пад назвай «*Opis kniharni Bielaruskaho wyd. T-wa u Wilni, zdadzienych Apiekunčaj Kamisii 23.04.1917 h.*», які і стаў нагодай звярнуцца да гісторыі Багдановічавага «Вянка».

Вопіс кнігарні налічвае каля 240 назваў беларускіх выданняў і ўказвае на колькасць асобнікаў кожнага выдання, кошт аднаго выдання і агульную суму. Сярод многіх прысутнічае тут і зборнік Максіма Багдановіча «Вянок». Першы запіс пра зборнік у названым вопісе зроблены на старонцы 2 кірыліцай, які ўказвае на 1355 асобнікаў па пяцьдзясят капеек кожны — на агульную суму 677 рублёў 50 капеек. Наступны запіс знаходзім на старонцы 4 лацінкай: «*46 — Wianok — 50 — 18.00*». Тут відавочная памылка. Калі суму лічыць правільнай, то асобнікаў павінна быць 36, а не 46. На гэтай жа старонцы яшчэ адзін запіс лацінкай: «*30 — Wianok — 50 — 15.00*». Адразу ж узнікае пытанне: чаму два названыя запісы зробленыя лацінкай? Вядома, што беларускія выданні таго часу друкаваліся як лацінкай, так і кірыліцай, альбо рабіліся паралельныя наклады: адно выданне ў двух шрыфтах. Гэтую з'яву адлюстроўвае і вопіс. «Вянок», як вядома, выйшаў кірылічным шрыфтам. Чаму тады складальнік вопісу зрабіў два запісы лацінкай, калі прытрымліваўся фіксацыі назваў кніг адпаведна іх шрыфту? Адказ можа быць простым: гэтая адпаведнасць не заўсёды захоўвалася, бо аўтар раз-пораз «збіваўся» на больш зручную для яго лацінку. Тым не менш не трэба адпрэчваць думку, што магла быць невялікая частка накладу «Вянка» і лацінскім шрыфтам. Ці так ужо дэталёва даследавана ў нашым літаратуразнаўстве гісторыя выданняў таго часу?

Годам выхаду «Вянка» ў свет пазначаны 1913-ы. Наклад выдання, відавочна, быў тыповым для таго часу — не менш за дзве тысячы асобнікаў. Гэта ж ускосна пацвярджаюць і лічбы вопісу: у адпаведнасці з ім агульная колькасць нерэалізаваных кніг «Вянка» ў 1917 годзе складала 1421 асобнік. Чаму так неэфектыўна рэалізоўваўся наклад зборніка, якія перашкоды сталі на яго шляху да шырокага чытача? Адказ на гэтае пытанне дае вывучэнне архіўнага фонду Беларускага музея імя А. Луцкевіча, а таксама газеты «Наша ніва» ад канца 1913 года да апошняга яе нумара 7 жніўня 1915 года. На жаль, дакументаў захавалася не так многа, але і гэтая невялікая колькасць дапамагае раскрыць некаторыя дэталі арганізацыі працы па выданні.

Ва ўспамінах Вацлава Ластоўскага, змешчаных у «Выбраных творах» (Мінск, 1997 год), чытаем, што «*за некалькі месяцаў пасля выезду з Вільні М. Багдановіч надаслаў у рэдакцыю "Нашай Ніве" рукапіс, у якім былі сабраны яго вершы як некаторыя з раней друкаваных у "Нашай Ніве", так і нанова ім напісаныя, пад загалоўкам "Кніжка выбраных вершаў" з просьбай выпусціць асобнай кніжачкай. Рукапіс гэты праляжаў у рэдакцыі больш паўгода, бо не было грошы, каб надрукаваць яго. І толькі ў 1913 годзе былі дабыты грошы на друкаванне рукапісу*».



1909 г.

Сапраўды, адсутнасць фінансавання іграла выключную ролю ў лёсе многіх выданняў. Але ў дадзеным выпадку справа была не толькі ў гэтым. Калі звярнуцца да некаторых фактаў з гісторыі выдавецкай справы таго часу, то становіцца відавочным, што кніга М. Багдановіча не магла выйсці ў Вільні раней за другую палову 1913 года.

Паводле звестак В. Ластоўскага, паэт даслаў свой рукапіс пад канец 1912-га ці ў самым пачатку 1913 года. Менавіта ў гэты перыяд у Вільні пачало рыхтавацца прадпрыемства, якое ў гісторыю нашай культуры ўвайшло пад назвай «Беларускае выдавецкае таварыства» (БВТ), а рэдакцыя газеты «Наша Ніва», у сваю чаргу, усю выдавецкую справу перадала новастворанаму таварыству. 1 ліпеня 1913 года «*дваранін Вацлаў Леанардавіч Іваноўскі, дваранін Барыс Лявонцьевіч Даніловіч, дваранін Іван Іванавіч Луцкевіч, дваранін Канстанцін Баляслававіч Шпакоўскі і дваранін Антон Іванавіч Луцкевіч заключылі […] дамову таварыства на даверы*» (БДАМЛМ. Фонд 3. Вопіс 1. Адз. зах. 33. Арк. 7). 2 жніўня 1913 года В. Ластоўскі паведамляў, што «*выдавецтва "Н.Н." перадало Беларускаму выдавецкаму таварыству ў Вільні выдавецтва сваё "Беларускі календар", які існуе ўжо чацвёрты год, разам з фірмай, непрададзенымі экзэмплярамі кніг, падрыхтаванымі для друку матэрыяламі і правам на атрыманне грошай за прынятыя да друку ў календары аб'явы і заказы на каляндар*» (БДАМЛМ. Фонд 3. Вопіс 1. Адз. зах. 33. Арк. 22).




Так, усе выдавецкія праекты, распачатыя ў «Нашай Ніве», пераходзілі да БВТ. З гэтага часу і была актывізавана праца па падрыхтоўцы да выдання такіх вядомых зборнікаў, як «Курганная кветка» К. Буйло, «Родныя з'явы» Якуба Коласа, «Васількі» Ядвігіна Ш. і інш. Сярод іх сваё годнае месца заняў і «Вянок» М. Багдановіча. Хоць і пазначаны годам выхаду на зборніку 1913-ты, трэба думаць, што выхад яго ўсё ж адбыўся ў пачатку 1914-га. Захаваўся дакумент — «*Выпіскі з касавай кнігі грашовых рахункаў Кнігарні Бел. Выд. Таварыства гатоўкай*», які сведчыць, што на працягу студзеня 1914 года яшчэ рабіліся аплаты па выданні (БДАМЛМ. Фонд 3. Вопіс 1. Адз. зах. 33. Арк. 32). У чарнавіку справаздачы захаваўся запіс аб значных сумах «гатоўкай», якія выдаваліся В. Іваноўскаму пад распіску. Усе гэтыя дакументы складаліся загадчыкам кнігарні БВТ В. Ластоўскім.

Мяркую, што названыя касавыя запісы можна растлумачыць наступным чынам. Кнігарня БВТ, якая мела ад продажу кніг і канцылярскіх тавараў наяўныя грошы («гатоўку»), выдавала сумы пад распіску, за кошт якіх рабіліся разлікі за пэўныя выдавецкія заказы, у тым ліку на атрыманне тыражоў з друкарань. Разлікі з друкарнямі праз адсутнасць грошай часам зацягваліся, што стрымлівала своечасовы выпуск ці нават выдачу заказчыку гатовых накладаў. Праца друкарань вельмі моцна залежала ад заказчыкаў. Незадоўга да арганізацыі БВТ Іван Луцкевіч пісаў брату Антону ў Пецярбург: «*Дарагі Антоне! У нас вельмі гора з грашамі, так, што, калі 6-га або 7-га зранку Кухце 200 рублёў не заплацім, то яму кабель электрычны здымуць*» (БДАМЛМ. Фонд 3. Вопіс 1. Адз. зах. 261. Арк. 21).

Магчыма, што і зборнік М. Багдановіча трапіў у сітуацыю, калі выдаўцам не хапіла грошай, каб адразу цалкам разлічыцца з друкарняй і забраць наклад агулам. Да гэтай думкі прывяло адно назіранне. 21 лютага 1914 года Антон Луцкевіч надрукаваў на старонках «Нашай нівы» рэцэнзію на зборнік «Вянок» пад назвай «Пясняр чыстай красы». Праз некалькі нумароў, 7 сакавіка 1914 года, «Наша ніва» змясціла інфармацыю пра «Вянок» у раздзеле «Агляд кніг». З першага нумара (4 студзеня) 1914 года «Наша ніва» распачынае друкаваць абвесткі «Беларускай кнігарні»: спачатку пра тыя выданні, якія браліся на продаж ад розных выдавецтваў, а пасля і пра тыя, якія пачалі паступаць з БВТ. Так было аб'яўлена аб паступленні на продаж кніг «Васількі» Ядвігіна Ш., «Сыгнал» У. Гаршына, «Родныя з'явы» Т. Гушчы (Якуба Коласа), «Курганная кветка» К. Буйло, «Рунь» М. Гарэцкага і інш. Але пра тое, што ў «Беларускую кнігарню» паступіў на продаж зборнік М. Багдановіча, аб'ява ў «Нашай ніве» ў 1914 годзе так і не з'явілася. У 1915 годзе газета такіх аб'яў ужо, можна сказаць, не друкавала, за выключэннем №№ 19-20, дзе было паведамлена пра выхад кніжкі С. Бірылы «Стражнік».

І ўсё ж «Вянок», як відаць са згаданага ў самым пачатку «Opisu» 1917 года, у кнігарню паступіў. Але гэта магло адбыцца тады, калі ўжо ўся грамадскасць была паглынутая падзеямі Першай сусветнай вайны. Неўзабаве БВТ, а ў жніўні 1915 года — і газета «Наша ніва», спынілі сваю дзейнасць. Іх арганізатары і кіраўнікі яшчэ ў маі 1915 года стварылі «Беларускае таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны», «маршалкам камітэту» якога стаў В. Іваноўскі, а яго намеснікамі А. Луцкевіч і В. Ластоўскі. Уся маёмасць БВТ, у тым ліку кнігарня і кніжны склад, зразумела, заставаліся пад іх апекай. У 1917 годзе, калі загадчык кнігарні В. Ластоўскі ўжо цалкам аддаўся палітычнай працы, узнікла неабходнасць стварыць апякунчую камісію і прыняць ад В. Латоўскага ўсе выданні, якія былі ў «Беларускай кнігарні».

БВТ аднавіла сваю дзейнасць толькі ў 1920 годзе. У чэрвені 1921 года С. Рак-Міхайлоўскі зрабіў інвертарныя вопісы маёмасці яго кніжнага складу і «Беларускай кнігарні». У першым вопісе пад № 9 выяўлены запіс: «Вянок» М. Багдановіча 190 × 25 = 4.750»; у другім — пад № 10: «Вянок» Багдановіча 25 × 25 = 650» (БДАМЛМ. Фонд 3. Вопіс 1. Адз. зах. 33. Арк. 48, 50). Як бачым, з 1421 асобніка, зафіксаванага ў вопісе 1917 года, у чэрвені 1921 года засталося толькі 215.

Паўстае пытанне: якім чынам была рэалізавана ў гэты неспрыяльны для грамадства час такая значная колькасць кніг, і не толькі зборніка «Вянок», а і многіх іншых выданняў, пазначаных у вопісе 1917 года? Можна меркаваць, што нейкая частка была аддадзена на рэалізацыю ў іншыя кнігарні. Але, як аднойчы ў прыватнай размове выказаў думку гісторык А. Сідарэвіч, значная частка кніг, якія знаходзіліся ў Вільні, у тым ліку «Вянок», пайшла ў часы Першай сусветнай вайны і Сярэдняй Літвы на патрэбы беларускіх навучальных і культурна-асветных устаноў. Толькі да канца 1918 года было адчынена 153 беларускія школы, з 1919 года дзейнічала Віленская беларуская гімназія, а ў першы прыяд існавання Сярэдняй Літвы, калі Б. Тарашкевіч, В. Іваноўскі, А. Луцкевіч і некаторыя іншыя дзеячы прынялі рашэнне выкарыстаць спрыяльныя для развіцця беларускай адукацыі і асветы палітычныя абставіны, ужо вясной 1921 года працавала 186 беларускіх школ, Барунская настаўніцкая семінарыя, настаўніцкія курсы, створана Таварыства беларускай школы.

Цешыць думка, што такая значная колькасць Багдановічавага «Вянка» не стала ахвярай полымя вайны, а была надзейнай падтрымкай у працы настаўніцтва беларускай нацыянальнай школы, выхавацелем патрыятычных пачуццяў і эстэтычных густаў маладога пакалення беларусаў.

**Ганна ЗАПАРТЫКА**

# Сон Багдановіча

**Сімвалы па сваёй вербальна-псіхалагічнай прыродзе надзелены магутным энергетычным патэнцыялам, здатныя адкрываць і ўтрымліваюць новыя ўзроўні рэальнасці, рэабілітаваць і ўзнаўляць у нашай свядомасці мінулую гістарычную рэчаіснасць...**

Максім Багдановіч увайшоў у беларускую літаратуру найперш як паэт-сімваліст. Ён стварыў цэлую галерэю яркіх нацыянальных вобразаў-сімвалаў, якія трывала ўвайшлі ў светапоглядную прастору беларуса. Прыгадаем толькі самыя знакамітыя: «І тчэ, забыўшыся, рука, // Заміж персідскага ўзора // Цвяток радзімы васілька», «Стрададуняй Літоўскай Пагоні // Не разбіць, не спыніць, не стрымаць», «Зорка Венера ўзышла над зямлёю. // Светлыя згадкі з сабой прывяла…», «Народ, Беларускі Народ! // Ты — цёмны, сляпы, быццам крот».

Вядомы заходні філосаф і псіхолаг Э. Фром выказаў наступную слушную думку наконт сімвалаў: «Мова сімвалаў — гэта такая мова, з дапамогай якой унутраныя перажыванні і думкі набываюць форму выразна адчувальных падзей знешняга свету. Гэта мова, логіка якой адрозная ад той логікі, па законам якой мы жывём у дзённы час, логіка, у якой галоўнымі катэгорыямі з'яўляюцца не час і прастора, а інтэнсіўнасць і асацыятыўнасць. Гэта адзіная ўніверсальная мова, якую выпрацавала чалавецтва, адзіная для ўсіх культур ва ўсёй гісторыі. Гэта мова са сваёй асабістай граматыкай і сінтаксісам, які трэба разумець, калі жадаеш зразумець сэнс міфаў, казак і сноў».

У канцэптасферы паэзіі М. Багдановіча існуе шмат значных і вызначальных вобразаў-сімвалаў, якія актыўна працуюць на выяўленне ідэйна-мастацкай формы творчасці паэта, яго ўнутранага светаадчування і светасузірання, для разумення і ўспрымання яго поглядаў на жыццёвыя, гістарычныя, сацыяльна-грамадскія і эстэтычна-мастацкія працэсы. З такіх вобразаў-канцэптаў у лірыцы М. Багдановіча — сімвал сну. Ён пранізвае амаль усю паэзію творцы і з'яўляецца адным з галоўных стылявых канструктаў яго паэтычна-мастацкай, сэнсава-ідэйнай і светапогляднай пазіцыі. Сон для паэта не толькі найважнейшы ўнутраны рухавік мадэлісублімацыі свету, выражэнне глыбока-інтымных пачуццяў і думак, але і вызначальны канцэпт, дамінанта яго паэтычнага адчування жыцця.

Так, у адным з ранніх вершаў, трыялеце «Мая душа» (1910), паэт выразна тлумачыць спецыфіку і прыроду сваёй паэтычнай жарсці, творчага натхнення.

*Мая душа, як ястраб дзікі,*
*Што рвецца ў неба на прастор,*
*Вартуе вольных птушак крыкі, —*
*Мая душа, як ястраб дзікі.*
*Учуўшы іх, страсе вялікі,*
*Свой сон, шыбне да вышай гор, —*
*Мая душа, як ястраб дзікі,*
*Што рвецца ў неба на прастор!*

Апантаная думка-мара паэта імкнецца як мага хутчэй скінуць, страсянуць з сябе свой сон, гэта значыць меланхалічны, наіўны погляд на свет, і ўбачыць гэты свет з прасторы вышай гор, адчуўшы яго ва ўсёй шматаблічнай кантраснасці і выразнасці.



*Работа Аляксея Марачкіна «Вераніка і Максім», 1981 г.*

У тым жа 1910 годзе М. Багдановіч публікуе верш «Мне снілася». Малады паэт пачынае выразна разумець складанасць задачы страсянуць з сябе сон душы, бо чым «Усё вышэй і вышэй я на гору ўзбіраўся, // Тым ўсё халадней мне й маркотней было», заяўляе ён у вершы «Мне снілася». Сон тут атрымлівае іншае сэнсавае значэнне, як бы дапамагае раскрыць гармонію і прыгажосць свету.

Паэт асэнсоўвае, што пазбаўленне ад сну душы — няўлоўная праца сэрца і розуму творцы, якая ніколі не можа быць поўнасцю ім схопленая, спасцігнутая мысленнем і нават пачуццямі. Між тым якраз тонкая энергетыка гэтай соннай быццам працы душы толькі і стварае з яго паэта.

Вельмі ўдала «высвечавае» гэтае сублімацыйнае перастварэнне рэчаіснасці М. Багдановіч у вершы «Да вагітнай» (1912), дзе месца цэнтральнага вобраза займае працэс, выношванне дзіцяці. Паэт стварае духоўна-сакральны вобраз жанчыны, якая перажывае салодка-мройны момант выспявання ў ёй плоду.

*Дзіцё, што ў коласе зярно,*
*Пад сэрцам у цябе ўсё спее,*
*І сэрца цёмнае святлее,*
*І шчырым робіцца яно.*
*Ужо нічога ў ім няма,*
*Адно ёсць — рупнае каханне,*
*Салодка-соннае бажанне,*
*Салодка-сонная дума.*

Гэтыя ж нябесныя пачуцці «салодка-соннае бажанне, салодка-сонная дума» вельмі блізка перадаюць працэс выспявання вершаванага радка. Эпітэт сонная набывае тут містэрыяльную афарбоўку, перадаючы звышрацыянальны, звышэмацыянальны стан душы і цела цяжарнай, а метафарычна паказвае стан душы цяжарнага вершам паэта. Момант такога сну-існавання ўяўляецца боскай ласкай, падарункам лёсу і разам з тым — цяжкім дрыготка-адказным абавязкам перад усім існым. Менавіта такі сон прыадчыняе прастору сусветнага паяднання прасторы і часу, злучаючы зямное і нябеснае ў адзіную містэрыю пражывання. Такому ж творча-натхняльнаму характару праяўленасці сну прысвяціў радкі рускі паэт-сімваліст А. Блок: «В кабаках, в переулках, в извивах, // В электрическом сне, наяву // Я искал бесконечно красивых // И бессмертно влюблённых в молву».

Калектыўнае падсвядомае, старажытны хаос, платонаўскі Эрас, які варушыцца і жыве ў душы кожнага з нас і як бы дрэмле і бачыць свае сны, прафанны чалавек амаль не ўсведамляе і слаба разумее, і толькі талент паэта праз яго магію-здольнасць уяўлення здольны выхопліваць яркія вобразы з гэтай містэрыі вечнага жыццятварэння.

Выдатна гэтую магію М. Багдановіч зафіксаваў у знакамітым вершы «Слуцкія ткачыхі» (1912). Прыгонныя дзяўчаты, сагнаныя ў панскі двор для ткання паясоў, неўсвядомлена, праз майстэрства працы, менавіта соннаю рукой дакранаюцца да глыбінных пластоў існавання свайго роду, народа, ткучы заміж персідскіх арнаментаў і сімвалаў узор радзімы васілька.

Канцэпт-сімвал сну быў генералізуючым таксама для выяўлення сацыяльна-грамадскай пазіцыі М. Багдановіча. Ён не мог мірыцца з гаротным і абяздоленым існаваннем сваёй Радзімы, якая, на яго думку, заснула глыбокім сацыяльна-летаргічным сном. Сваім паэтычным крэда мастак лічыў задачу абуджэння і адраджэння роднага краю, які ў вобразным свеце — нібы тыя русалкі з верша «Над возерам» (1909), той жа самнамбул ці вадзянік з аднайменных вершаў 1913-га і 1909 года.

*Над вадой ля берага ціха спіць асока,*
*Ды лаза зялёная жаліцца-шуміць,*
*Хвалі ціха коцяцца і бягуць далёка, —*
*І ўсё навокала сном адвечным спіць.*

Вучоныя нейрапсіхолагі вызначылі карысць сну для працы мозга: сон кантралюе, што і як мы запамінаем. Нашая памяць фарміруецца не так, каб магчыма было прыгадаць мінулае, але і каб з дапамогай папярэдняга досведу палепшыць выкананне розных задач у будучыні. Гэта значыць, што падчас здаровага сну ідзе праца па перапрацоўцы назапашанага за дзень досведу. Ці не ідэнтычную ролю снупамяці для беларускага народа раскрывае М. Багдановіч у вершы «Пагоня» (1917)?..

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах, —*
*Успомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*

Узвялічаная эмоцыя страху дазваляе творцу знайсці і вяршынную форму сублімацыі — нацыянальную святыню — Вострую Браму святую, якая і павінна кандэсаваць у сабе найвышэйшую ступень гістарычнай і боскай адказнасці ў душах беларусаў за свой край і народ.

Вось такі нацыянальны сон памяці, дзе «ўсё лятуць і лятуць тыя коні», // Срэбнай збруяй далёка грымяць…».

**Ігар ШАЛАДОНАЎ**

**Віктар ШНІП**

## Сусвет Максіма

*упала з нябёсаў сняжынка*
*як белы васілёк з вянка*
*што ў руках твайго анёла*
*якому ты стварыў сусвет*
*у якім у цэнтры Паэзія*
*як сонца*

*упала з нябёсаў сняжынка*
*як з верша твайго рыфма*
*і верш стаў белым*
*як воблака*
*як завіруха*
*у вулках старой Вільні*
*па якой ты ідзеш*
*да Сабора Святой Ганны*
*каб пазбыцца*
*горычы цяжкіх дум*

*упала з нябёсаў сняжынка*
*як белая пушынка з вішні*
*як белы аганёк*
*якому было сумна ў нябёсах*
*без цябе*

*а ў лесе маркотны лясун*
*слухае*
*як стары вадзянік у рацэ*
*суцяшае русалак*
*што ў срэбных сецях*
*заблыталі свае косы*
*і цяпер чакаюць*
*выратавання*
*ад самотнага Паэта*
*і ты ідзеш да русалак*
*маладых і закаханых*
*каб вызваліць іхнія косы*
*і сказаць маркотнаму лясуну*
*што жыццё цудоўнае*
*як лес сасновы*
*дзе кувае бясконца зязюля*

*і ляцім мы з табой сярод*
*зорак*
*і ў кожнага з нас ёсць свая*
*Веранiка*
*і свой цвяток радзімы*
*васілька*
*і Вільня і песні жальбы і гневу*
*і вера што прыйдзе вясна*
*і мы не цёмныя і не сляпыя*
*і наш Страцім-лебедзь*
*мае нашчадкаў*
*і плыве праз вечнасць наш*
*Ноеў каўчэг*
*у якім заўсёды будзеш ты*
*і наш сусвет*
*дзе вострая брама святая*
*дзе ваякі на грозных канях*
*не даюць нам чужынцамі*
*быць*
*і ніколі іх анікому*
*не разбіць не спыніць не*
*стрымаць*

*і зорка Венера ўзыходзіць*
*высока над роднай зямлёю*
*каб ты бачыў яе і ў расстанні*
*каб ты бачыў яе*
*і ў далёкім краю*
*калі днём не пралятаць*
*залатымі агнямі*
*ля сіняй бухты*
*як на краі свету*
*на краі твайго жыцця*
*якое вечнае*
*як зорка Венера*
*як Беларусь*

Анонс

# Класік усміхаецца

Хрэстаматыйнае, цэльнае ўспрыманне жыцця і творчасці класіка нацыянальнай літаратуры афарыстычна-ёміста схоплена ў словах А. Бачылы «Максім Багдановіч. Гонар і боль беларускага народа», які з акустычным эфектам рэверберацыі разышліся па многіх рэпрэзентатыўных тэкстах, прысвечаных паэту.

Так сталася, што традыцыйнаму вобразу «песняра чыстае красы» (А. Луцкевіч), зафіксаванаму майстрамі выяўленчага мастацтва і скульптуры, як найлепш пасуе не ўсмешка (такіх выяў папросту няма), а шырока растыражаваныя мастакамі засяроджанасць, задуменнасць, пакутніцкі выраз твару.

Асоба М. Багдановіча, прадстаўленая ва ўспамінах сучаснікаў, найперш паплечнікаў па беларускай справе, спрацоўвала на міфалагізацыю вобраза ў запамінальным мінорным гучанні. Такі працэс быў лагічны для таго часу, калі запатрабаванымі для грамадства станавіліся новыя біяграфіі падзвіжнікаў і пакутнікаў за свой народ.

У выніку перад намі ў многім міфалагізаваны жыццяпіс, вытрыманы ў канонах народнага спачування да нягодаў, што выпалі на долю паэта, багата інтэрпрэтаваную стараннямі нашчадкаў у каардынатах любові і захаплення асобай і творчасцю вечна маладога творцы.

Аўтар гэтага артыкула ўзяўся прадставіць М. Багдановіча ў парадыгме актуальнага абнаўлення цікавасці да культурнай спадчыны. Новае прачытанне літаратурнай класікі сёння ўжо не можа задавольвацца традыцыйнымі «мармурова-бронзавымі» падыходамі. Усё больш запатрабаванымі становяцца раней малавядомыя, факультатыўныя «жывінкі», здольныя прадставіць творцу ў арэоле звычайнай, прыцягальнай чалавечай абаяльнасці, і тым самым пашырыць дыяпазон сучаснага асэнсавання, наблізіць паэта да шырокай аўдыторыі, прастымуляваць дыскусійнасць даследчыцкага бачання.

Ці ўсміхаўся М. Багдановіч? Вядома ж, так — і ў жыцці, і ў творчасці. Пра гэта сведчыць яго спадчына, такую думку падмацоўвае і новая знаходка. Нечаканыя грані творчай рэалізацыі класіка літаратуры на аснове малавядомых і новых фактаў пры шырокім кантэкстуальным вырашэнні будуць прадстаўленыя ў снежаньскім нумары часопіса «Полымя».

**Мікола ТРУС**

## Вольга ШПАКЕВІЧ



***

*Сплыве і гаркотай, і болем,*
*Пустэчай астудзіць душу,*
*І знічка не высвеціць болей*
*Тых слоў, што я ночцу пішу.*

*Ні веры былой, ні надзеі:*
*Пайшлі, затуманілі след,*
*Будзёншчыну не паднядзеліць...*
*Ці воблачкі ў небе, ці снег,*

*Ці, можа, кахання былога*
*Пяшчотна-прываблівы цень?*
*Які ж ён, скупы і нядоўгі,*
*Мой век, і мой лёс, і мой дзень!*

***

*Выпадкова ўсмешку злавіла —*
*І лагода ў душу заплыла,*
*Незямная, магутная сіла*
*Захліснула прыбоем цяпла.*

*І гаворка здалася пустою,*
*І нікчэмным — усё, што пішу,*
*Калі нешта каштоўна-святое*
*Кропляй мёду асела ў душу.*

*І так хочацца долі мне лепшай,*
*Што бывае хіба што у снах.*
*Дастаткова пагляду з усмешкай,*
*Каб душа расцвіла, як вясна.*

### Начное танга

*Стаіліся травы навокал,*
*А вецер у дрэвах заціх,*
*І танга начное ў паўзмроку,*
*І танга адно на дваіх.*

*Пад музыку зораў даспелых*
*Танцуем да стомы святой,*
*Анёльскія чуюцца спевы*
*Над вечнаю грэшнай зямлёй.*

*І музыка дзіўная ў сэрцы,*
*Бы райскі завёўся там птах,*
*Дыханне спяшае-імкнецца*
*Патрапіць мелодыі ў такт.*

*Хаваецца казачны вечар,*
*Святочны ад слоў дарагіх.*
*І танга начное пры свечках,*
*І танга адно на дваіх.*

***

*Пражыта і пройдзена столькі—*
*Хапіла б на двух чалавек.*
*Калі няма плоду — без толку*
*Загублены, зглумлены век.*

*Хай радасць і боль адгукнецца*
*То звонкай,то ціхай струной,*
*Мелодыяй поўніцца сэрца,*
*Як рэкі Палесся вясной.*

*Хай будзе цяпло і спагада*
*Заўсёды на свеце ў людзей,*
*Няхай хоць маленькая радасць*
*Да бліжняга сэрца ідзе.*

*Жыццё пралятае, як вецер, —*
*Ёсць межы у рэчы любой.*
*Пакуль мы жывыя на свеце,*
*Хай будзе між намі любоў!*

### Сэрца

*Нечакана прыйшлося сустрэцца*
*Гэтым шэрым нярадасным днём.*
*Маё сэрца, удзячнае сэрца*
*Запалала кахання агнём.*

*Мне б у промнях пяшчоты сагрэцца*
*І адчуць прыцягнення магніт,*
*Вось і сэрца, наіўнае сэрца*
*Просіць розум хоць крышку змяніць.*

*Сустракацца наўрад давядзецца:*
*Мы па розных сцяжынках ідзём,*
*Толькі сэрца, упартае сэрца*
*Самавольна кіруе жыццём.*

***

*Пажадай мне шчасця болей*
*І кахання пажадай,*
*Каб рассталася я з болем*
*І каб радасць — цераз край.*

*Пажадай усмешак ветлых,*
*Што за майскі дзень святлей,*
*Слоў і шчырых, і прыветных,*
*Жыць у ласцы і цяпле.*

*Пажадай паболей грошай*
*І яшчэ пабольш сяброў,*
*Каб заўжды была харошай*
*І дзялілася дабром.*

*Пажадай мне спраў нямала,*
*Пажадай мне поўна сіл,*
*Каб я шмат чаго жадала,*
*Каб жаданням збыцца ўсім.*

***

*А лёс мой горкі і пякучы.*
*Былога чарнавік гартаю.*
*Жыццё мяне ўсё вучыць, вучыць,*
*А я — што двоечніца тая.*

*Жыву і верай, і надзеяй,*
*Ды час мяне не ашчаджае,*
*Любові зерне толькі сею,*
*Але ці ўсцешуся ўраджаем?*

*Эх, лёс мой, змрочна-палыновы,*
*Хоць раз пацеш мядовай кропляй.*
*Забуду ўсё. І дзень свой новы*
*Пачну былінкай кветкі крохкай.*

***

*Не скажу я, што мне не шанцуе,*
*Калі лашчыцца сонейка промнямі*
*І на праводзе птушка танцуе,*
*Не скажу, хоць пяройдуць з няпоўнымі.*

*Мне у вочы заўжды закахана*
*Гляне з вейкаў зялёных крынічка,*
*Салавей мне пяе несціхана*
*І за воблакі жаўранак кліча.*

*І сама я ўсміхаюся сонцу,*
*На далонях трапечацца вецер.*
*«Гэта шчасце, — шапчу я бясконца, —*
*Што жыву, што жыву я на свеце».*

## Рычард БЯЛЯЧЫЦ



### На княжы сон

*Сонцу свайму*
*І маліўся,*
*І верыў,*
*Покуль дарогі дадому вялі,*
*Друцкі-Любецкі Францішак Ксаверый,*
*Князь неўгамонны*
*Буслінай зямлі.*

*І па спякоце, і ў люты траскучы,*
*Непрадказальный памежнай слатой*
*Едзе з Масквы на Варшаву*
*Праз Шчучын*
*Князь-пасланец*
*Ад Тэрэзы Святой.*

*Тут пад паглядам таполяў і вязаў*
*Выраяў дзвесце назад*
*Ды вясной*
*Бегла падлеткам Марыя да князя,*
*Цар азадачаны хуткай вайной.*

*Думак цяжар*
*Пра Вялікае Княства*
*Вытрымаць нельга рысорам ужо.*
*Як пагадзіцца,*
*Што Нёманам ясным*
*Шчасце сплывае*
*Па волі чужой?*

*Подых вясенняй Нявы.*
*А назаўтра*
*Князь праз знаёмы блакітны прастор*
*Пад паланэз аднадумцы і сябра*
*Ціха вяртаўся ў заплаканы двор.*

*Змоўчалі ў цені магутныя сцены,*
*Гмах узляцець за душою гатоў.*
*Слухае князь над сабою касцельны*
*Звон*
*І грымоты наступных гадоў.*

***

*Край і асенні, і летні,*
*Свой і дагэтуль увішны.*
*Белыя блякнуць ліліі,*
*Падаюць чорныя вішні.*

*А на світанні падсаца*
*Кветам чырвоная цэгла.*
*Светла Агінскага пальцы*
*Ў просінь над намі пабеглі.*

*Па-за Віллёй спеюць нівы*
*Каля дарог ацалела.*
*Можна прачнуцца шчаслівым,*
*Нельга, каб больш не балела.*

*І адгукаешся імю,*
*Што ў навальніцы не чэзла.*
*Вобраз трывожнай радзімы*
*Спіць на руках паланэза.*

### Твой смех

*І будуць прылятаць сініцы,*
*Вісець на нітачцы прысценна.*
*А ты мне будзеш светла сніцца*
*Жыццё астатняе, напэўна.*

*Забыў у мітусні сталіцу,*
*Што вечар ёсць,*
*Што ёсць світанне.*
*І ручайком твой смех бруіцца*
*З-пад даўніх дзён*
*Не перастане.*

### Пра час

*Растуць буслы ў сваім гняздзе.*
*Зарана б з вышыні не ўпасці.*
*О, як марудна час ідзе,*
*Калі падумаеш пра шчасце.*

*І вось з вачэй плывуць якраз*
*Чароды,*
*Сумныя калі вы.*
*О, як імчыць, сыходзіць час,*
*Калі ты ўдалы і шчаслівы.*

*У зорных вуліц на рагу*
*Як не да часу, недарэчы*
*Я вас прыпомніць не магу,*
*Вы ж прызначаеце сустрэчу.*

*Хоць узляці,*
*Зара калі,*
*Хоць упадзі падвечар ніцма.*
*Якое шчасце на зямлі*
*Пра час*
*Не думаць навучыцца.*

## Святлана СЦЕПАНЧУК



### Сталы працяг

*Раман пачыналі пісаць мы таропка,*
*Крый бог не адстаць каб ад велічных з'яў.*
*Там знакі прыпынку — то клічнік,*
*то кропка.*
*Было б разумней, каб пытальнік стаяў.*
*Так часта ў радках слова «шчасце»*
*мільгала…*
*Здавалася нам: без яго не пражыць.*
*Вялікую сутнасць жыццё адкрывала,*
*Але не на страх нам — само прыбяжыць.*

*Радок за радком, зноў старонкі гартаем.*
*Мяняюцца словы, больш яўным*
*стаў змест.*
*Не ў спешцы цяпер, спакваля разважаем,*
*Не клічнік ужо, а шматкроп'е замест.*

***

*Стаіць пад павеццю старая каса.*
*Іржа зацямніла бляск сталі…*
*Калісьці з размаху злятала раса —*
*І травы радамі ляжалі.*
*Кляпаў летняй раніцай тата яе,*
*І звон абуджаў наваколле.*
*Як звону такога цяпер нестае!*
*Не травы — палын на прыволлі.*
*І тата…*
*Так рана забраў яго Бог.*
*Малюся: каб толькі на неба.*
*Старанна касу гэту тата бярог.*
*Ды вось яна — болей не трэба.*

***

*Так часта хочацца ў цішы*
*Да думкі сэрцам дакрануцца,*
*Паклікаць словы ад душы,*
*Уперад глянуць, азірнуцца,*
*Са сказам раіцца, спрачацца,*
*Сціхаць, пярэчыць, пагаджацца,*
*Знаходку ручцы даручыць,*
*Выводзіць літары з усмешкай —*
*Іначай кажучы, тварыць, —*
*Занесці скарб таемнай сцежкай,*
*Схаваць на час у любы сшытак,*
*Дзе ёсць ранейшых дзён здабытак,*
*Каб потым зноў адкрыць і зноў чытаць,*
*Адобрыць часам, часам адхіснуцца,*
*А толькі не закрэсліць, не парваць.*
*І зноў да думкі сэрцам дакрануцца.*

### Святое прызнанне

*Не трэба так многа крычаць*
*пра каханне —*
*Патрэбна яго паказаць,*
*Адкрыць, як знаходку, святое прызнанне*
*І потым, крый бог, не губляць.*

*Зазяюць пачуцці ў хвіліны чакання —*
*Належыць душой іх прыняць.*
*І ўбачыцца змрок як жывое світанне,*
*Мелодыя будзе гучаць.*

*Па ўсім небакраі расквецяцца зоры,*
*І месяц таемна натхненні ўзбадзёрыць*
*Сысціся без слоў, у цішы.*

*Не крык пра каханне — паўторы,*
*паўторы —*
*Абранніку шчасце сапраўднае дорыць,*
*А мова пачуццяў душы.*

# Наследаванне найвышэйшай песні Саламонавай*

*Урывак з эсэ*



Віталь ЧАРОПКА

«Якая прыгожая ты, каханая! Якая прыгожая ты!» Колькі любасных слоў казаў ён табе, о прыгожая сярод Ерусалімскіх дачок, самая гожая ягоная мілая дзяўчынка. Колькі любасных слоў чуў ён ад цябе, каханне тваёй душы. Як лашчыў ён цябе, і лепшыя за віно былі яго пяшчоты. Як апяваў ён тваю чароўнасць, як песціўся сонечным промнем у тваіх пакутлівых любасцях. Дык дзе ж ён? І дзе ты? Чаму вы не разам растаеце ў абдымках гарачага кахання? Няўжо вашае каханне так і скончылася?

Але ж ёсць у нашых душах і проста тое, што не выказаць словам, тое, чаго ўсемагутны Бог не змог прыдумаць, прадбачыць, прылічыць да нашых грахоў, тое, што заўсёды з намі, што прыходзіць са снамі і сыходзіць бясследна, як дымны сон. Ён — запаветнае шчасце, да якога мы ніколі не дакранёмся стомленай душой. Няма яго, і спытайцеся ў самага шчаслівага, і ён адкажа, што ёсць праца, ёсць у яго грошы, а да іх і жонка з дзеткамі — замена шчасця. Але шчасце сапраўднае ёсць, бо мы самі ствараем яго, калі ў нас няма крылаў. Каб апярэдзіць час ці абляцець яго па арбіце ў зваротным кірунку — з сённяшняга ў мінулае, — калі можна вярнуцца ў былое і спыніцца там на імгненне над схіленай перад табой жанчынай і сказаць: дык што вы хочаце ад мяне, я кахаю вас. Ну дык не адпускайце ж мяне ў гэтую ноч, не адпускайце мяне ад сябе. Голасам асуджанай на пакаранне адзіноты ўмольна шапні, не сыходзь; крыкам заблуканай у цемры закрычы, не пакідай мяне! «Не адпускайце мяне ад сябе ні на імгненне, ні на крок не губляйце мяне з поля зроку. Не бойцеся, што я п'яны ад вас больш, чым ад віна», — прамаўчаў ён. Знясілены, прастагні, злітуйся, застанься са мной.

Дзяўчына-жанчына, хвалістых валасоў любата, сонечных россыпаў вясноўка, зорнага ззяння бліскавіца, нябесных красак вясёлка, жытных палеткаў валошка, росных траў іскрынка, даўгіх шляхоў крынічка, Святой Вяллі Нарачанка, адзінокі агеньчык начы, зорачка ліхтарная зары, сумных вачэй усмешка, спакуса ўсіх пажадлівых жаданняў, бязгрэшна-грэшная каханая. З чым жа можна цябе параўнаць? Калі не з табой, царыца непараўнальная! Шоргатам росных траў, цурчэннем крынічных вод, мелодыяй чароўнай флейты і эолавых струн душы гучаў голас твой у ягонай душы. «Каханне маёй душы! Які ты прыгожы, мой любы, які ты ласкавы, мой ты адзіны раз і назаўсёды! О, калі ты цалаваў мяне цалаваннем вуснаў сваіх, я забывалася на свет, бо ўвесь свет быў ты, названы тваім дарагім імем. Ап'янёная ад пяшчот тваіх, хворая з любові тваёй і каханнем сваім да цябе. Уратуй мяне, уратуй мяне ад гэтай хваробы, акрыляй мяне сваім высокім палётам, каб аж захапляла дух і хвалявала сэрца. Як снег на вяршынях пад сонечным цяплом, я раставала і пераўтваралася ў ваду, каб парай падняцца да нябёсаў. Які пяшчотны ты, які харошы ты, які прыгожы мой цар усясільны!» Ты адпусціла яго ў ноч, няўцемна з ганарлівай помстай і схаваным сумам у слёзных вачах, сарамлівай нясмеласцю ў сэрцы шчымлівым і хвіліннай крыўдай у душы, адпусціла ты каханага сэрца твайго, нібыта паўстала супраць паслухмянай пакорлівасці свайму каханню. У ложку пустым ужо яго не шукала, у горадзе пустым не шукала і не знайшла. А голас твой гучаў у яго душы, як голас яго знясіленай мары, як голас яго ненароджаных дзяцей, як голас яго згубленых сяброў, як голас яго начных гасцей — яго герояў і катаў, што пілі ягоную кроў. І колькі белі цнатлівасці грахоўнай выставіў ён напаказ, як да донца бессаромна расхрыстаў сябе — увесь табе аддаўся. І пайшоў назаўжды ў ноч, у яе цемру і невядомасць. І голас твой гучаў у яго душы: «Які ты прыгожы, мой любы, які ты ласкавы, мой адзіны і непаўторны». І голас твой гучаў у яго вушах, як спеў чаротавай жалейкі, што заспяваў, калі нагнаў вецер бур, такіх добрых і злосных. А ён табе маліўся, каб пачула ты ўначы яго голас-заклік. «Гэта я, гэта я, твой каханы і адзіны. Не адпускай». Паўтараў замовай гэтыя цудадзейныя словы і не пачуў у адказ: «Гэта я, гэта я, твая каханая і адзіная. Не пакідай мяне, не пакідай».

Ён ішоў па начы, па далёкіх шляхах, што разлучалі вас назаўжды, і сэрца яго заплакала. Яго сэрца — гэта келіх віна для цябе! Яго сэрца — гэта песня для цябе! Яго сэрца — гэта святло для цябе! Яго сэрца — гэта пяшчота для цябе! Яго сэрца — гэта ён для цябе! Яго сэрца — гэта мара! А Мара — гэта марнасць, гэта змарнеласць, што аплаквала ягонае каханне — ясную панну з блакітнай крыві зямнога роду. Ну дык чаго плакаць, калі ён пераважыў сам сябе, калі няма вяртання назад і, калі не страпянулася твая душа і не прыляцела да яго, адзінокага-адзінага твайго бадзягу начных дарог. Што ён мог яшчэ табе давесці? Яго золатавалосая непараўнальная Багіня — чароўная жанчына сноў і чакання, што нарадзілася з яго страсці. А мы ўсе нарадзіліся са страсці святагрэшнай і праз дзевяць тэрмінаў турбот прывіталі гэты свет. Дайце нам імёны, назавіце як-небудзь на памятку страсці, з якой мы пайшлі ў свет. Імя, якое для кагосьці зробіцца святым, каб у бязмежнай начы замест «Божа» шаптаць сасмяглымі вуснамі гэтае святое найменне самага дарагога чалавека, каб з ім злучыцца праз вятры і буры, праз прасторы цемраў і расстанняў. «О, мая ясная найвышэйшая песня кахання недапетая!».

А па вуліцах сталі дазорцы і не бачылі яго, не сустракалі ўначы, а днём ты і не шукала яго па вуліцах, дзе згубіўся, куды знік, куды пайшоў і не вярнуўся. Не шукала свайго вандроўніка ад цябе да цябе, пабітага, разбітага, асляплёнага слязьмі, з сэрцам скрываўленым, вырваным гострымі кіпцюрамі наканаванай разлукі, якое ўпала на зямлю. «Якая прыгожая ты, каханая! Якая прыгожая ты!» Праз вечнасці вечнасцей грукатала сэрца на Зямлі, у лужыне крыві стагнала ягонае сэрца цудадзейныя словы: «Якая прыгожая ты, каханая. Якая прыгожая ты! Уся ты прыгожая, любасць мая, і няма на табе заганы...» І хай песня яго найвышэйшая гучыць як гімн неўміручасці і святасці яе імя. Якая прыгожая яна, горлінка, галубка легкакрылая, пчолка на яго сонечных промнях. Не біся ў шыбы, толькі ляці-ляці на яго голас над усімі кветкамі, што пасадзіў ён для цябе: над лілеямі, вяргінямі, ружамі, астрамі, валошкамі, рамонкамі, гваздзікамі і сімвалічнымі незабудкамі. Прабач, што не шукала і не знайшла. А ён разбіты, як упаляваны ў вінаградніку ліс, паранены, упаў у пыл: «Якая прыгожая ты, каханая! Прыгожая!» Клікаў цябе, каб птушкай, каб пчалой прыляцела да яго і ажывіла сваёй чароўнасцю…

Скажы-адкажы, дзе ж ты была, калі ён, твайго сэрца каханне, твайго кахання нявольнік, пакутна адыходзіў ад цябе? Дзе ж ты была? Скажы-адкажы, дзе яго нашчадак? Скажы-адкажы, чаго ты баялася, ад чаго хавалася? Хай жа будуць блаславёны твае будучыя дзеці і твой будучы муж, які дасць ім імёны. Жывіце ў ягоным царстве, цені яго каханне, якое ён стварыў з прывіднай хімеры мары, з марнасці, што вось і змарнеў на нішто. Яны вырастуць, твае мілыя дзеткі, і, канечне, паўтораць вашыя памылкі, наробяць глупства і згубяць усё, што давалася з юнацтвам у дадаткі: веру, любоў і надзею, бо ніхто іх гэтаму не навучыць, не асцеражэ, не абароніць, не заслоніць.



Таму што злавілі яго ў вінаградніку, як лісянятку, і пакаралі, як рабаўніка, і нават у сне бачыў ён цябе і маўклівым голасам пісаў на паветраных скрыжалях. «Дык ты і так прыгожая да абсурду. Клятае пакаранне ўсім маім пачуццям. Я адлюбіў, адкахаў, адмілаваў, адлашчыў усіх, хто любіў мяне і нават кахаў, а я ні на каліўца іх не пакахаў, нават не палюбіў. Але яны стакроць блаславёны святасцю кахання, якога я быў не варты, якое мне дадзена як пакаранне ад цябе». Ну што ж: праз тысячагоддзі хай жывуць гэтыя словы, каб ведалі, што і мы, старажытныя людзі эпохі разводаў, любілі, кахалі і пакутавалі ад гэтага, як і тысячы-тысячы гадоў таму ў эпоху пачатку зямлі, безразважлівай Евы і бязладнай Ліліт, у часы нараджэння Лады і Афрадыты, войнаў з-за Алены і Клеапатры, бо і тады агаломшаны, аслупянелы мужчына ўсклікаў: «Якая прыгожая ты, каханая! Якая прыгожая ты!» І з гэтага нарадзілася слова і рэхам, як магутным токам, пракацілася над пікамі горных вяршынь, па пушчанскіх гушчах, кавылях-стэпах, марах-акіянах пад таямнічым месяцам, пад сонейкам-сонцам, па ўсім і ўсюды, куды рэха голаса захоплена магло данесці словы першаісныя. «Яка-я-я пры-гожая-я-я ты, каха-ная-я-я! Якая-я харо-шая-я-я ты!» І свет аддаляўся ад сну, як ад крыку немаўляці, нарадзілася пачуццё, якое назвалі каханнем і асвяцілі яго сабе на святасць і пашаноту. Цёплыя дажджы абмылі яе бурштынава-жамчужнае цела ад бруду-пылу, і заззяла яно сонечнай чысцінёю, забруіліся нябесныя воды хвалямі шаўковых яе валасоў. Павучкі-верхалазы, што, як маятнікі часу, калыхаліся на сваіх лёгкіх нітачках, саткалі ёй паветраныя адзежы, гусі-лебедзі прынеслі іх ёй на плечыкі. Нават пахмурны старажыл крумкач і тое накінуў ёй на шыю рабінавыя каралі… І Бог кінуў ёй залатоўкі на тварык, каб Боскай выбранасці вясноўкі адзначылі яе, і шапнуў яму: «Якая яна прыгожая! Глядзі ж, ёлупень бяздумны, шукальнік слоў, ахоўнік тайн, прыдумшчык казак, вандроўнік па снах, гуляка з лёсам, якая яна прыгожая, але не для цябе». І ўбачыў ён яе ножкі, ад кругласці сцегнейкаў яе заняло дых, а затоенасцю ўсхвалявала сэрца гарачай крывёю… Якая вабная яна раскошамі сваімі! Адным поглядам апаланіла яго сэрца! Не велічная, не святая, а спакусніца, вечная спакусніца прыгажосці. І насуперак Богу ёй вырашыў, што яна для яго, бо яна паланіла яго сэрца, паланіла і зрабіла нявольнікам сваёй прыгажосці.

І ганарлівы цар запаліў цыгарэту, гледзячы ў пустэчу начы, не бачачы, якая яна прыгожая, не бачачы яе гожасці і вабнасці…

А ты не схілілася перад ім, не паклала далонь на яго счарнелы голаў, не пацалавала сваімі мядовымі вуснамі-сотамі, паветраным павеям рук не ўтрымала яго, не зрабіла яго кволым, не паланіла яго самаго. Адвяла ты ад яго свае вочы і не ўсхвалявала яго. Няўжо хапіла толькі яго сэрца спакусіць і паланіць, як багатую здабычу? Але ж якая ты прыгожая!..

Стужку часу назад не адматаць, але ўладарны словам вызначыць палёт у мінулае, да самай першай кропкі, калі сустрэліся іх позіркі ў перакрыжаваннях наканаваных лёсаў, калі ўсё і так было прадвызначана: радасць і слёзы, і пацалунак на развітанне, і несцярплівае чаканне новай сустрэчы. І доўгае-доўгае астыванне, падзенне з горніх вяршынь райскага саду ў прорву жыцця і, падхопленая моцнымі крыламі арла, прызямлілася ты на гэтую грэшную зямлю — проста на бялюткую аксамітавую спіну Бога, што выкраў цябе з хваляў марскіх сабе ў наложніцы. Адно шкада, калі паслізнулася ты на ільдзяных слядах, даганяючы яго, пабіўшы каленку, не астудзіў ён твой боль, не зацалаваў, не залашчыў, бо баялася ты яго слоў: «Якая прыгожая ты, мая нябесная горлінка, мая вабная радасць, мая спакуса і шчасце. Мая… мая, але і не мая». Не схіліўся, не залашчыў, не прашаптаў — проста кінуў праз плячо «бывай», а ўслед нічога не пачуў. А ўсё ж шэптам сняжынак, шолахам пёрка на паперы, цішынёй маўчання, крыкам бязгучным прамовіла-выдыхнула з душы: «Кахаю цябе», — а ён не пачуў. Як у вершы**, чуў ён іншы голас: «Пакуль шукаў ты на зямлі каханую, я ў небе з ёю саграшыў». Чуў ён голас сваёй крыўды, і гнала яго крыўда прэч ад цябе. Аглух ён на твае словы, нават роспачы тваёй не пачуў.

Усім Ерусалімскім дочкам казала: «Каханы мой з усіх найлепшы і наймілейшы і любасці яго саладзейшыя за смакату і хмялейшыя за віно і гаючыя за ўсе бальзамы. Я млею ад яго голасу і аблічча. Я так хачу заснуць на ягоным плячы, прытуліцца да яго сэрца і слухаць, як яно адмервае нам імгненні шчасця».

Спынялі цябе дазорцы, калі ты яго шукала, пабілі цябе дазорцы з-за яго, дзёрзкага і ўпартага, калі спыталася ў іх, ці не бачылі яго. А калі знайшла, не ўтрымала. Няма яго, няма яго, а толькі сэрца б'ецца, як птушанятка, на зямлі… А ты спала, а яго сэрца яшчэ пульсавала, як атамны рэактар, і тысячы гадоў будзе пульсаваць, пакуль жывуць яго словы, і слаць у сусвет код зямнога кахання, бо радыяцыяй кахання яно насычана праз край. І няхай пасля нас, калі сыдзем у свой прыдуманы рай, у сваю краіну мар, усё роўна вечна будзе жыць каханне — вось тут, у гэтых словах, у спевах паэтаў, у мелодыях музыкі, у фарбах мастакоў, у зорным зіхаценні начэй. Дык даруй яму, што не ўмеў кахаць, што пасаромеўся быць кволым ад кахання, што не прамяняў волю на цябе. Ён проста кахаў, і знемагаў ад немагчымасці ператварыць імгненні ў гады, і вырваў непаслухмяны гадзіннік разам з сардэчнымі пакутамі. Мы адыдзем, мы ўсе адыдзем, і зорнымі краскамі зазіхацім над галовамі ўсіх закаханых, і праклёнам зробімся ўсім пакрыўджаным каханнем. На вякі вечныя гучыць плач нашых сэрцаў, а таму не пытайся, па кім гучыць гэты плач: ён гучыць па нас.

** У творы выкарыстаны цытаты з «Найвышэйшай песні Саламонавай» у перакладзе з царкоўнаславянскай Васіля Сёмухі і з іўрыту — Янкі Станкевіча.*

*** Перыфраз радкоў верша Міколы Купрэева «Ён і яна».*

# ПЕРШАДРУКАР, ВАНДРОЎНІК, ЛЕКАР

**Францыск Скарына — гэта не толькі чалавек-легенда, але і чалавек-энцыклапедыя, і, безумоўна, чалавек свету. Калі больш канкрэтна, то на пытанне «Хто такі Скарына?» Алесь Суша прапануе ў сваёй кнізе цэлых васямнаццаць адказаў!**

Студэнт, доктар у навуках, лекар, сакратар трох каралёў, багаслоў, асветнік, прадпрымальнік, патрыёт... Самае яркае знаёмства з беларускім першадрукаром мае адбыцца на старонках новага выдання з серыі «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя».

Першы том «Францыск Скарына: чалавек-энцыклапедыя» дазваляе сарыентавацца ў біяграфіі беларускага першадрукара. І калі ў змесце няма вызначэння Скарына-падарожнік, то справа толькі ў тым, што вандроўкам Францыска Лукіча цалкам прысвечаны другі том. «Фактычна ўвесь цывілізаваны свет быў добра вядомы Францыску Скарыне, а ў многіх дзяржавах цудоўна ведалі яго. Кіраўнікі некалькіх еўрапейскіх краін называлі яго выбітным дзеячам, славутым вучоным, надзвычай адораным і таленавітым мужам. Яго здольнасці здзіўлялі многіх педагогаў, арыстакратаў і гараджан у розных куточках Еўропы», — адзначае Алесь Суша ў прадмове і прапануе пазнаёміцца з гісторыяй краін і гарадоў, дзе спыняўся і жыў наш галоўны герой.

Безумоўна, у тэкстах згадваюцца мэты вандровак альбо прыводзяцца найбольш верагодныя версіі. Даследчыкі дагэтуль не вызначыліся, ці наведваў Францыск Скарына Маскву альбо Капенгаген, таму




Фота Таццяны Сапега.

*Алесь Суша падчас прэзентацыі кнігі «Францыск Скарына» ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

невялічкая карта не толькі знаёміць з палітычнай геаграфіяй XVI стагоддзя, але і дэманструе, наколькі верагодным было знаходжанне Скарыны ў розных гарадах тагачаснай Еўропы. Як і ў кожным томе энцыклапедыі, пасля тэксту раздзела прыводзяцца цікавыя факты. Напрыклад, у распаведзе пра Вялікае Княства Маскоўскае Алесь Суша адзначае, што бацька беларускага першадрукара дакладна меў эканамічныя стасункі з гэтай дзяржавай і ў якасці прыкладу прыводзіць скаргу вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча польскаму каралю і вялікаму князю літоўскаму Казіміру на нібыта рабаўніцкія дзеянні полацкіх купцоў Лукіяна Скарыны і Пракоф'ева ў дачыненні да жыхара Вялікіх Лук Дароні Іванова (май 1492 г).

Акрамя цікавых фактаў, у выданні багата цікавых ілюстрацый — вялікіх, каляровых, на паласу альбо разварот. Шырока прадстаўлены ў кнізе работы скульптараў і мастакоў: вось Францішак — усмешлівы хлапчук на караблі ў рыжскім порце: на ім белая кашуля, а валасы падперазаны стужкай, аздобленай пасярэдзіне чырвоным арнаментам (мастак Вячка Целеш, 1991 год). На рабоце Арлена Кашкурэвіча («Скарына ў Полацку», 1990) беларускі першадрукар узнёслы і годны, трымае кнігу і працягвае руку да Еўфрасінні Полацкай. Скарына Язэпа Драздовіча нагадвае вясковага юнака — задумлівага, але ўпэўненага («Развітанне з родным Полацкам. У свет па навуку», 1944). Такім чынам, энцыклапедыя не толькі знаёміць са Скарынавай спадчынай, але і адкрывае чытачам свет беларускага мастацтва.

Многія ілюстрацыі маюць пазнавальны характар: напрыклад, на некалькіх выявах можна разгледзець, як выглядала паясная кніга — менавіта ў такім арыгінальным пераплёце выходзіла «Малая падарожная кніжыца». Фотаздымкі гарадоў, якія наведваў першадрукар, дапамогуць юным скарыназнаўцам запомніць шматлікія геаграфічныя назвы з жыццяпісу славутага суайчынніка. Да таго ж энцыклапедыя дазваляе нібыта пагартаць Скарынавы выданні — так шмат тут гравюр, тытульных лістоў, прыгожых разваротаў.

Гравюры Скарыны выкарыстоўваюцца як ілюстрацыі да шмуцтытулаў (асобных старонак з назвамі раздзелаў), што дазваляе ўважліва разгледзець выявы. Адпаведна, знаёмства з выданнем падчас сямейнага чытання прадугледжвае размову пра Святое Пісанне, бо біблейскія сюжэты, прадстаўленыя на гравюрах, могуць вельмі здзівіць сучасных дзяцей. Ілюстрацыі таксама патрабуюць каментарыя пра асаблівасці шрыфту кірылічных кніг XVI стагоддзя і, безумоўна, доўгай размовы пра друкаваную кнігу як з'яву культуры. Гэта тэма раскрываецца ў трэцяй частцы энцыклапедыі: «Францыск Скарына: чалавек-легенда». У гэтым томе Алесь Суша распавядае пра развіццё кнігадрукавання і «тэхналогію стварэння цуду», а таксама знаёміць з гісторыяй Скарынавых выданняў. Тут чытач знойдзе ці не найбольш новай інфармацыі: напрыклад, даведаецца пра немца Швайпольта Фіёля, які друкаваў кірылічныя кнігі ў Кракаве напрыканцы XV стагоддзя, і высветліць, што кнігі Скарыны былі добра вядомыя ў Вялікім Княстве Маскоўскім, бо Максім Грэк у пачатку 1520-х гадоў цытаваў Скарынава выданне Першай кнігі Царстваў (1518).

Энцыклапедыя дапамагае хутка ўзнавіць альбо паглыбіць веды пра дзейнасць беларускага першадрукара. Яркія ілюстрацыі «ўключаюць» зрокавую памяць, а шмуцтытулы дазваляюць нават пры хуткім праглядзе запомніць галоўныя пункты, пра якія вядзецца гаворка ў кнізе. Дзякуючы новаму выданню «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі» атрымаць агульнае ўяўленне пра дзейнасць Францыска Скарыны зусім нескладана — дастаткова ўсёй сям'ёй скіравацца ў кнігарню альбо ў бібліятэку, дзе трохтомнік чакае чытачоў!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Невядомы Алесь Наўроцкі

## Занатоўкі ўкладальніка

Калі з тузін гадоў таму я захапіўся творчасцю Алеся Наўроцкага — паэта з адукацыяй медыка і лёсам савецкага дысідэнта, — то, здаецца, яшчэ не ўяўляў, што калі-небудзь стану ўкладальнікам тома яго выбраных твораў. Аднак не пакідала адчуванне: прыхільнікі таленту пісьменніка, напэўна, зачакаліся яго новай кнігі і ўвогуле новых публікацый, бо пасля рускамоўнай версіі рамана «Валун» (1994) А. Наўроцкі больш нічога не выдаваў.

Неаднойчы даводзілася чуць, што, перажыўшы кантакты з «карнай псіхіятрыяй», ахвярай якой пісьменнік сябе лічыў, ён стаў празмерна асцярожным і недаверлівым, жыў «затворнікам» і наўрад ці меў жаданне дзесьці друкавацца. Якой жа прыемнай неспадзяванкай было яго вяртанне ў літаратуру ў 2010 годзе, калі А. Наўроцкі апублікаваў шэраг новых вершаў і даў некалькі інтэрв'ю! Але следам за радаснай навіной напаткала і сумная: 24 красавіка 2012 года пісьменнік памёр.

На шчасце, архіў Алеся Наўроцкага захаваўся: у верасні 2014 года яго сястра Надзея Піліпаўна разам са сваім унукам Міхаілам прывезлі ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва акуратна перавязаныя стосамі папкі, якіх пры падліку аказалася 49. Гэта і стала нагодай падумаць пра выданне кнігі выбранага. Ініцыятыва належала галоўнаму рэдактару вядомай серыі «Беларускі кнігазбор» Кастусю Цвірку. Перада мной жа як складальнікам паўстала нялёгкая задача: прадставіць Алеся Наўроцкага адначасова «вядомага» і «невядомага». Зрэшты, «вядомы» — вызначэнне ўмоўнае, калі казаць пра аўтара, кнігі якога не выдаваліся ўжо больш за дваццаць гадоў.

Задача ўскладнялася тым, што свае тэксты А. Наўроцкі любіў перарабляць, часам па некалькі разоў, ствараючы варыянты, якія маглі кардынальна адрозніваюцца адзін ад аднаго. Пры выданнях твораў за асноўны часта бярэцца пазнейшы — як найбольш даведзены аўтарам да ладу. У выпадку ж А. Наўроцкага такі падыход не заўсёды выглядае мэтазгодным. Пасталелы і «пабіты жыццём» паэт прыбіраў з ранніх твораў з кнігі «Неба ўсміхаецца маланкаю» (1962) занадта гіпербалізавана-парадаксальныя альбо натуралістычныя дэталі — тое, за што яго ў свой час ганьбавалі крытыкі. А некаторыя




*Доктар Алесь Наўроцкі, 1966 год.*

лаканічныя вершы з кнігі «Гарачы снег» (1968) пасля пераробкі атрымаліся неапраўдана расцягнутымі. Тады як шмат каму, у тым ліку і мне, даспадобы менавіта той, ранні, «не сапсаваны» Алесь Наўроцкі. Таму давялося многія вершы пакінуць у рэдакцыі 1960-х гг. — каб захаваць непаўторную стылістыку паэта, свежасць і непасрэднасць ягонага пачуцця. На жаль, адзін з найбольш яркіх для А. Наўроцкага і знакавых для беларускай літаратуры паэтычных цыклаў — «Элегіі» (1958 — 1961) — у кнігу не трапіў. Але гэта таму, што апошняя кропка ў кнізе належала ўсё ж не ўкладальніку, а галоўнаму рэдактару: у чымсьці нашыя густы і не супалі…

З прозай было крыху лягчэй: абраныя мною для кнігі аповесць «Дома» і раман «Прыпяць» існуюць у паэтавым архіве толькі ў адным машынапісным асобніку. Кнігу «Валун» (1976) я вырашыў уключыць у поўным аб'ёме, беручы пад увагу аўтарскую канцэпцыю «рамана ў апавяданнях». Аднак і тут, даследуючы згаданы тэкст глыбей і параўноўваючы з першапублікацыямі асобных яго частак-апавяданняў, можна было б зрабіць асобнае цікавае даследаванне. Так, напрыклад, у кніжным выданні «Валуна» галоўнаму герою належыць сцвярджэнне «…няма заслугі ў чалавека, калі ў ім абуджаецца талент», а ў першым варыянце (апавяданне «Валун» у часопісе «Полымя», 1966, № 10) яно мела працяг: «…і няма віны яго, калі ў ім прачынаецца звер».

Згаданыя творы «Дома» і «Валун» раней ніколі не публікаваліся. Менавіта яны і прадстаўляюць чытачу «невядомага» Алеся Наўроцкага. Раман «Прыпяць» — своеасаблівы працяг «Валуна». Аўтар выяўляе сябе майстрам псіхалагічнай прозы, здольным падрабязна апісваць не толькі думкі і пачуцці сваіх герояў, але і іх глыбінныя комплексы, якія паўстаюць пэўнай неадаптаванасцю ў свеце, немагчымасцю наладзіць паўнавартасна асабістае жыццё. У найбольшай ступені гэта датычыцца галоўнага героя «Валуна» і «Прыпяці» — спачатку санфельчара, а потым маладога доктара, размеркаванага ў сельскую бальніцу аддаленай палескай вёскі Агурковічы (пад імі разумеюцца Аравічы Хойніцкага раёна, дзе працаваў сам аўтар).

Аповесць «Дома» прысвечана тэме так званай добраахвотнай падпіскі на дзяржаўную пазыку ў пасляваеннай беларускай вёсцы. Праведзенне падпіскі пісьменнік паказаў як нахабную грабежніцкую кампанію, супастаўную з гвалтоўнай калектывізацыяй. На думку самога А. Наўроцкага, менавіта гэтая аповесць і з'явілася нагодай для яго пераследу органамі бяспекі ў Маскве…

З «невядомага» ўвайшлі і некаторыя непублікаваныя пры жыцці вершы. Яны даюць даволі яскравае ўяўленне пра тое, чым жыў паэт два апошнія дзесяцігоддзі. А жыў ён па-ранейшаму пачуццём настальгіі па няспраўджаным юнацкім каханні, блізкім да таго, што выказаў іншы вядомы паэт у хрэстаматыйным вершы «Пахне чабор». Толькі Пятрусь Броўка абмежаваўся некалькімі вершамі, а ў Алеся Наўроцкага гэта стала лейтматывам.

З аднаго боку, кніга атрымалася аб'ёмная — 640 старонак, з іншага — шмат што з творчай спадчыны А. Наўроцкага засталося па-за выданнем. Гэта раман «Пакаленні і папялішчы», п'есы «Памылка» і «Ульянка», цыкл літаратурных эсэ «Слова пра слова», дзённікава-мемуарны тэкст «Споведзь», вершы, аўтабіяграфічныя паэмы «На канікулах», «Запіскі санфельчара сельскай бальніцы», «Жаніцьба», «Я жыў на дзявох кватэрах», «У фельчарскай школе» і інш. А гэта значыць, што новыя публікацыі твораў Алеся Наўроцкага, а магчыма, і новыя кнігі — яшчэ наперадзе.

**Віктар ЖЫБУЛЬ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Чароўнае Палессе

**Сярод выданняў, прадстаўленых падчас месяца польскай літаратуры, кніга Малгажаты Шэйнэрт найбольш тычыцца Беларусі. «Насыпаць горы» — гэта васямнаццаць расповедаў пра Палессе, героямі якіх сталі ксёндз Казімір Свёнтак, мастак Напалеон Орда, мовазнаўца Фёдар Клімчук, пісьменнік Анатоль Крэйдзіч, сям'я мотальскіх вяндляроў Мінюкоў і мноства іншых цікавых асобаў, чый лёс яднаюць дарогі, рэкі, мястэчкі, вёскі, палацы і цэрквы паўднёвай Брэстчыны.**

Асобныя старонкі кнігі «Насыпаць горы» чытаюцца як біяграфія, сацыялагічны нарыс, даследаванне па гісторыі паўсядзённасці. Але ў першую чаргу «палескія гісторыі» можна разглядаць як рэпартаж, вынік шматлікіх наведванняў Беларусі, сустрэч з навукоўцамі, краязнаўцамі, музейнымі супрацоўнікамі...

Зорка польскай журналістыкі Малгажата Шэйнэрт смела блукае па гразкіх берагах Піны, каб пабачыць бункер польскай флатыліі, знаёміцца з вернікамі царквы пяцідзясятнікаў з Вялікага Малешава, слухае спевы хасідаў на месцы яўрэйскіх могілак і просіць мужчын прыцішыць аўтамабільнае радыё, каб не перашкаджаць людзям маліцца. У расповедах, прысвечаных асобам з мінулых стагоддзяў, гістарычныя экскурсы чаргуюцца з непасрэднымі ўражаннямі ад наведвання сядзіб, помнікаў, могілак. Да таго ж, жыццё і дзейнасць галоўных герояў — нагода для размовы з мясцовымі жыхарамі, якія дзеляцца меркаваннямі, чуткамі ды ўспамінамі.

Першая прычына цікавасці Малгажаты Шэйнэрт да беларускага Палесся — горад Пінск, родны для «караля рэпартажу» Рышарда Капусцінскага. Знакаміты польскі журналіст збіраўся напісаць кнігу пра Палессе, але так і не паспеў гэта зрабіць. У якасці яшчэ адной нагоды аўтарка ўзгадала танга «Чары Палесся», якое часта напявалі палякі старэйшага веку. Брэсцкае Палессе ў 1921 — 1939 гадах уваходзіла ў склад Другой Рэчы Паспалітай, таму многія сумныя падзеі першай паловы XX стагоддзя належаць да супольнай беларуска-польскай гісторыі.

Кнігу адкрывае расповед пра падарожжа амерыканкі Луізы Арнэр Бойд па ваколіцах Пінска ў 1934 годзе. І гэта сімвалічна: у рэпартажы з беларускага Палесся большасць галоўных герояў — людзі, якія не з'яўляюцца беларусамі. Гэта буйныя і дробныя землеўласнікі даваеннага часу, ксяндзы, яўрэі, службоўцы, замежныя падарожнікі. Пераважаюць, вядома, палякі: нехта пакінуў родную сядзібу ў 1939 годзе і назаўсёды застаўся ў Польшчы, нехта прыехаў з Польшчы ў «крэсы» і знайшоў тут вечны спачын з пачаткам Другой сусветнай вайны.




Мясціны, якія маглі б нагадваць пра падзеі выключна польскай гісторыі — як, напрыклад, пабудовы Пінскай флатыліі, — часта ў занядбанні. Затое імёны вядомых палякаў могуць быць больш ушанаванымі ў Беларусі, як гэта здарылася з Напалеонам Ордам. «Вы лічыце яго беларусам?» — пытаецца Малгажата Шэйнэрт у Анатоля Крэйдзіча. «Ён наш, ён тут нарадзіўся, у Варацэвічах, за пару кіламетраў ад Янава, і хацеў быць пахаваным у Янаве. Тады не было Польшчы, не было Беларусі, Украіны і Літвы, была вялікая расійская дзяржава. А цяпер тут Беларусь», — упэўнівае яе суразмоўца.

Малгажата Шэйнэрт зычліва ставіцца да беларусаў, але часам задае вострыя пытанні, якія надаюць расповеду належную фатаграфічную рэзкасць. Стаўленне сучасных беларусаў да падзей мінулага — адзін з тых момантаў, якія безумоўна цікавяць польскага чытача.

Кніга «Насыпаць горы» аказалася вельмі запатрабаванай у Польшчы. Першы тыраж разышоўся неспадзявана хутка. На беларускую мову палескія гісторыі пераклалі Марыя Пушкіна і Алена Пятровіч — і хочацца верыць, што беларусы зацікавяцца адным з рэгіёнаў сваёй краіны не менш, чым польскія чытачы. Выданне ў пяцьсот старонак утрымлівае паказальнікі імёнаў і геаграфічных назваў, а таксама аздоблена фотаздымкамі, якія заўсёды маюць грунтоўны каментарый. Чым прываблівала Палессе ў міжваенныя дзесяцігоддзі? Пасля першых цытат з тагачасных дакументаў пра галечу палескіх вёсак і «страшныя ўмовы жыцця» падаецца, што «чары Палесся» — не больш, чым прыгожая прыдумка. Але архіўныя фотаздымкі пераконваюць у адваротным і падштурхоўваюць шукаць адказ...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Алесь Емяльянаў-Шыловіч:

# «Добра, калі паэт можа маўчаць»



Падчас Месяца польскай літаратуры ў Мінску прэзентавалі новыя перакладныя выданні, сярод якіх — кніга Галіны Пасвятоўскай «Ідалапаклонніца». Гэта першая выдадзеная па-беларуску кніга польскай паэтэсы. З'явілася яна дзякуючы падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску і, вядома ж, працы перакладчыка — паэта Алеся Емяльянава-Шыловіча. Мы пагутарылі пра неардынарную творчасць Галіны Пасвятоўскай, асаблівасці перакладчыцкай работы, залішнюю сарамлівасць беларускага чытача ды іншае.

**— Пра польскую паэтэсу Галіну Пасвятоўскую ў беларускай інтэрнэт-прасторы мала інфармацыі. У 1950 — 60-я гады выдала тры паэтычныя кнігі. У васямнаццаць выйшла замуж, а ў дваццаць — аўдавела. Маючы хворае сэрца, пайшла з жыцця ў 32 гады. Як чалавек, дасведчаны ў яе творчасці, што можаш дадаць важнага?**

— Вельмі добра сказаў Станіслаў Граховяк: яе паэзія — феномен аўтэнтычнага эратызму. Абсалютна непадробная паэзія цела, жарсць закаханай жанчыны... Тэмы смерці і кахання дамінавалі ў творчасці Пасвятоўскай. Яна ведала, што не сёння-заўтра памрэ. І кожны радок у яе — як апошні. Яе называлі польскай Сафо. Даследчык Маркс выдаў двухтомнік біяграфій так званых выклятых паэтаў Польшчы. Патрапіла ў іх лік і Пасвятоўска.

**— Калі казаць менавіта пра «Ідалапаклонніцу»: ці існавалі для цябе строгія правілы падчас работы?**

— Тут мы маем справу з верлібрам. У некаторым сэнсе яго перакладаць прасцей. Не трэба ісці за строгім памерам, хоць рытм, канечне ж, ёсць, задае яго сама мова. Некаторыя вобразы даводзілася перайначваць, каб яны гучалі па-беларуску. Галоўная мая задача — каб Пасвятоўска жыла ў беларускай прасторы, у беларускай мове. Наколькі гэта ўдалося? Не ведаю. Рэдактар, Андрэй Хадановіч, сказаў, што добра. Карыстаючыся момантам, хачу яму аддзячыць: рэдактар перакладной літаратуры мае неацэннае значэнне. Ён параўноўвае арыгінал і пераклад, мусіць прасачыць сувязь між тэкстамі, заўважыць хібы, якія зрабіў перакладчык, — не таму, што ён не дасведчаны, а проста таму, што замыльваецца вока, і ты ўжо не бачыш, як ажывіць вобраз, прыкладам. Андрэй усё гэта зрабіў па-майстэрску.

**— Калі бярэшся перакладаць пэўнага аўтара, значыць, ён табе блізкі, сугучны. Ці не ўзнікала пры такіх умовах спакуса дадаць нешта ад сябе?..**




— Перакладчык — гэта перадатчык. Натуральна, у тэксце застаюцца адбіткі яго асобы, гэта непазбежна, бо не ўсе вобразы і метафары можна перастварыць, але я імкнуўся пакінуць мага меней сябе. Так, часам даводзілася нешта перайначваць, але мне такія крокі даваліся цяжка. У Пасвятоўскай ёсць вобраз: рукі каханага — промні сонца, якія ахопліваюць цябе. Папольску гэта гучыць файна, а па-беларуску — даволі груваста, рытм губляецца. Я прыдумаў «сонца рук». Гэта не промні, вядома, але сонца як кола, абдымкі — мне падалося, вельмі цікавы вобраз.

**— Ёсць найбольш любімыя вершы?**

— Яны ўсе любімыя. Кніга складаецца з вершаў, выбраных з усіх яе зборнікаў, і твораў, што засталіся ў рукапісах ды чарнавіках. Хацелася даць беларускаму чытачу лепшае (на мой погляд, натуральна) з паэзіі аўтаркі. І атрымалася такая кніжачка з 80 вершаў. Я вельмі люблю яе зборнік «Гімн ідалапаклонніцы», ён даў назву кніжцы. Яна сапраўды такая… язычніцкая. Вось, прыкладам, верш «Венера»: з аднаго боку — іранічны, з іншага — балючы, трохі скрушны. Але тут ёсць жыццё, прага жыцця.

**— І вялікая шчырасць. Бо трэба мець смеласць, каб казаць пра плоцевае, — нават сёння.**

— Беларускаму чытачу гэта вельмі карысна. У нас да нядаўняй пары была вельмі стрыманая жаночая паэзія, завуаляваная інтымная лірыка. Да Вальжыны Морт саромеліся такіх адкрытых тэкстаў, саромеліся называць рэчы сваімі імёнамі. Гэта, канечне, пераежытак з савецкіх часоў, такая цнатлівасць, якая часам даходзіла да маразму. А тут раптам — «Спрадвечны фінал» Пасвятоўскай…

**— Такія матывы (у прыватнасці, кахання не толькі платанічнага) і асобныя вобразы (прыкладам, біблейскія матывы) наводзяць на думку пра паэзію Насты Кудасавай. Відаць, нездарма яна ўдзельнічала ў прэзентацыі «Ідалапаклонніцы»?..**

— Наста здзівілася, калі я прапанаваў паўдзельнічаць у вечарыне. І, толькі пачытаўшы кніжку, сказала: цяпер я зразумела, чаму ты мяне паклікаў. Сапраўды, у нашай літаратуры няшмат паэтэс, якія не саромеюцца гэтых тэмаў, якія гэтаксама яскрава і адкрыта гавораць пра інтымнае, самае патаемнае, і мне пашчасціла сябраваць з гэтымі жанчынамі: Наста Кудасава, Наталка Кучмель... Кніга не пабачыла б свет без Польскага інстытута, і яго дырэктар Матэуш Адамскі падчас прэзентацыі распавёў: яшчэ ў час яго навучання ў Варшаўскім ліцэі паэзію Пасвятоўскай чыталі і цытавалі — гэта праз трыццаць гадоў пасля смерці паэтэсы. Яе творчасць і сёння папулярная, асабліва сярод моладзі. Вядомыя пераклады Пасвятоўскай на персідскую, рускую, балгарскую, нямецкую, партугальскую, украінскую мовы. А зараз і ў нас ёсць кніга Пасвятоўскай. Але варта зазначыць, асобныя пераклады існавалі і раней — Максіма Танка, Алега Лойкі, Наталлі Русецкай.

**— Звернемся ўласна да тваёй паэзіі: выйшла кніга «Парасонечнасць», былі паасобныя публікацыі. Ці не назбіралася на другую кнігу?**

— На два месяцы я з галавой занурыўся ў пераклады, і папросту не хапала часу, каб нешта сваё пісаць. Кніга, якую планаваў, адкладалася й адкладалася, дый вершаў не так багата. І я вырашыў спалучыць іх з перакладамі, якіх назбіралася нечакана шмат. Верш апошнім часам стаў для мяне чымсьці іншым, чым раней. Стаў больш інтымнай рэччу, не для ўсіх. З чаго пачынаў, да таго і прыйшоў. З іншага боку, маўчанне часам патрэбнае. І калі паэт можа маўчаць — гэта добра. Цяпер мяне ўсё больш захапляе проза.

**— Пісьменнікі, стаўшы бацькамі, часта пішуць вершыкі, казачкі, загадкі… Пазней гэта трансфармуецца ў асобны атожылак творчасці. З табой такога не здарылася?**

— За час майго шчаслівага бацькоўства напісалася вершыкаў дваццаць. Я не думаў, што стану іх пісаць. Але калі яны з'явіліся — то чаму не?.. Пачаў прыдумляць казкі, апавяданні. Некалькі публікацый было ў «Вясёлцы», «Літаратурнай Беларусі». Але дзіцячым пісьменнікам сябе пакуль не адчуваю.

**Наста ГРЫШЧУК**

# «Памятаць сваё наканаванне» —

## абавязковая задача мастака паводле Рыгора Сітніцы

**Чатырнаццатага снежня ў Палацы прафсаюзаў будзе праходзіць XXII з'езд Беларускага саюза мастакоў. У папярэдні раз ва ўдзельнікаў назбіралася шмат пытанняў па арганізацыі творчых праектаў, накont падтрымкі іміджу творцаў. Настрой, з якім мастакі падышлі да мінулага з'езда, быў невясёлым. Сістэма патрабавала перабудовы. Што змянілася за мінулыя тры гады, якіх поспехаў дасягнуў саюз і якія пытанні наспелі сёння, распавёў старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца:**



— Перш чым пачаць абмяркоўваць вострыя пытанні, хачу адзначыць, што дзевяць год я ў кіраўніцтве Беларускага саюза мастакоў. Першыя шэсць гадоў быў намеснікам, астатнія тры — старшынёй. Тры гады таму, напярэдадні XXI з'езда, грамада ўгаварыла мяне балатавацца на старшыню саюза. У той час узнікала шмат пытанняў, якія былі абсалютна немастацкія ў сваім гучанні, ну і, канечне, маральны настрой не лепшы. Лічу, што за тры гады ў нас атрымалася зрабіць так, каб людзі звярнулі ўвагу, кім з'яўляюцца, і больш пачалі думаць пра творчасць. Мастакі — інтэлектуальна-духоўная шляхта, і іх спрэчкі павінны заставацца ўнутры, а не выходзіць за межы майстэрні.

### ПРА МЭТЫ І ДАСЯГНЕННІ

— Адна з галоўных мэт Беларускага саюза мастакоў — захавацца. І захавацца ў тым аб'ёме і ў той якасці, з якой існуем. За тры гады, нягледзячы на абсалютна неспрыяльныя эканамічныя варункі краіны, няма ніякіх прэтэнзій, таму што мы ўсе ў аднолькавай сітуацыі, але ў Саюзе не знізілася ні колькасць выставак, ні іх якасць. Наадварот: мы выйшлі на вышэйшы ўзровень, дасягнуўшы поспеху ў разнастайнасці мастацкіх праектаў. У эканамічных паказчыках мы таксама дзе падвоілі, а дзе і патроілі вынікі. Нават набылі паўтары тысячы метраў да нашай маёмасці — выкупілі цэх для скульптурнага камбіната, цяпер будзем збіраць грошы, каб набыць належнае сучаснае абсталяванне. Гэта важна, таму што практычна ўсе значныя помнікі ў краіне робім мы. Фенаменальная з'ява, калі падчас няпростай эканамічнай сітуацыі ў многіх краінах закрываюцца мастацкія ўстановы, а ў Беларусі яны ствараюцца.

Акрамя таго, што нам трэба захавацца як творчай арганізацыі, варта палепшыць маральны стан, які яшчэ падтрымліваецца ў нашым асяроддзі, быць адпаведнымі званню «мастак», бо творца павінен памятаць пра сваё наканаванне.

### ПРА АПЛАТУ МАЙСТЭРНЯЎ

— Да сённяшняга дня па-ранейшаму ёсць праблема, што турбавала нас увесь час: аплата творчых майстэрняў, якая даволі вялікая. Нам абяцаюць, што ў лютым будзе пэўная палёгка па цяпле, якое ў дзесяць разоў даражэй, чым у кватэрах. Сумы за майстэрню бываюць і восем, і шэсць мільёнаў за месяц, бывае, і да дзевяці даходзіць. Мы, не стамляючыся, вядзём перамовы з дзяржавай: пакуль палёгку абяцаюць, але ж у выніку хацелася б бачыць адпаведны дакумент. У лютым уступае ў сілу Кодэкс аб культуры, які, спадзяёмся, таксама дапаможа.

### ПРА ПРАБЛЕМЫ Ў КІРУНКАХ

— Напэўна, большая праблема існуе ў традыцыйнай кераміцы, якая саступае прамежкавым формам. Са шклом тая ж самая сітуацыя, таму што кірункі вельмі складаныя ў тэхналагічным выкананні. Вось графіку, напэўна, лягчэй, чым жывапісцу, таксама як жывапісцу лягчэй, чым скульптару. У абодвух выпадках ёсць тонкасці. Напрыклад, жывапісец можа ствараць палотны ў маленькім пакойчыку, а скульптару патрэбна майстэрня, бо тут іншыя патрабаванні. Кожны кірунак мае патрэбу ў пэўных складніках. Але ж найперш важна — захаваць мастацкую ідэю прадукту, каб яе адпаведна ўспрынялі. З гэтым і раней узнікалі пытанні, сёння яны больш вострыя: мастацтва ўсё часцей можна падмяняць псеўдамастацтвам. Інтэрнэт-пляцоўка паспрыяла гэтаму неверагодна. Цяпер ты за дзве хвіліны намаляваў нешта, выставіў у сацыяльныя сеткі, і цябе палова свету бачыць. Вось гэта вялікая праблема: пашыраць мастацкі густ. Напрыклад, фальклор доўга жыў па сваіх законах, ніколі не канкурыраваў з акадэмічнай сцэнай, ён захоўваў каноны традыцыйна-народнай культуры. І ніколі ні ў народны касцюм, ні ў этнаграфічныя вырабы, ні ўвогуле ў народныя спевы папса і кітч не пранікалі, а цяпер гэта ўсё можа спалучыцца і, на жаль, ўваходзіць у жыццё.

### ПРА ТОЕ, ЧАМУ З'ЯЗДЖАЮЦЬ МАСТАКІ

— Ёсць маладыя мастакі, якія з'язджаюць, але ёсць і якія застаюцца. Гэта прыватны выбар чалавека, як, напрыклад, сысці з прафесіі. Мы ж ведаем: многія з выпускнікоў у гэтай прафесіі не застаюцца. Гэта хутчэй тая сітуацыя, калі чалавек шукае больш лёгкага хлеба, лепшых умоў. Многія ж думаюць, што ў краіне рэтраградская сітуацыя, і ім не дадуць выявіцца. Але ж зараз усе выяўляюцца, як ім трэба. Зараз кожны мае права выказацца і быць пачутым. Нават сядод членаў Саюза мастакоў ёсць радыкальныя творцы, ёсць, канечне, секцыя традыцый, дзе людзі імкнуцца захаваць набыткі акадэмічнай школы, і іншыя кірункі прысутнічаюць. Мы перыядычна ладзім праекты, дзе спрабуем падтрымаць маладое мастацтва. Напрыклад, напрыканцы вясны адбыўся праект «Таму што»: той самы выпадак, калі ёсць магчымасць выказвацца нетрадыцыйнымі сродкамі. Разумееце, трэба ўсё ж такі прымудрацца бачыць роднае. Калісьці ў юнацтве, напханы расійскім дэкадэнствам, я лічыў, што Купала — гэта прымітыў, вясковасць, толькі пасля зразумеў, наколькі гэта найвышэйшая эстэтыка, толькі іншая. І не трэба было Купалу параўноўваць, напрыклад, з Блокам. Тады проста не хапала розуму, не было каму патлумачыць. Так і нашы маладыя мастакі: яны пакуль не разумеюць нашай эстэтыкі, не разумеюць гістарычнай каштоўнасці айчыннага мастацтва.

### ПРА ЯКАСЦЬ МАСТАЦТВА

— Мастакам неабходна ствараць якасны прадукт, быць адпаведнымі часу, разумець, што і для каго робім. Абавязкова трэба мяняць свядомасць, перастаць думаць, што мы правінцыя, а памятаць: мы — цэнтр Еўропы. Калі мне кажуць, што айчыннае мастацтва моцна адстала ад перадавых еўрапейскіх краін, то я пытаю: «А ці ўсё трэба даганяць?» Даўно перакананы, што далёка не ўсё. Трэба вельмі разумна і абачліва (а гэта наша нацыянальная рыса) ставіцца да таго, што мы даганяем і пераймаем. Захаваць набыткі акадэмічнай мастацкай школы — яшчэ адна важная для саюза тэма. Страціць — элементарна, а набыць пасля немагчыма, што мы і бачым на прыкладзе іншых краін. Раней у Германіі была вельмі моцная рэалістычная школа, але яе страцілі. Калісьці маё пакаленне вучылася па іх кніжках. Сёння там абсалютна дылетанцкае кола, а моцнага мастацтва, што тычыцца рэалізму, які быў у шасцідзясятыя гады, няма. Вось што нам пасля давядзецца назіраць, калі будзем думаць, што дзесьці лепш. Сёння любы дылетант можа назваць сябе актуальным мастаком, геніем і сказаць, што вучыцца не трэба, бо школа замінае яго арыгінальнаму мысленню. Гэта глупства. Але ніхто не хоча ісці да дылетанта-доктара ці ляцець у самалёце, якім кіруе лётчык-дылетант. У любой прафесіі, у любой справе мусіць працаваць прафесіянал, а ў мастацтве — тым больш, бо нават школа далёка не ўсё дае — толькі пяцьдзясят працэнтаў. Астатнія пяцьдзясят — інтэлект, штодзённае развіццё, ідэя, якая вядзе і не дае схіліцца да халтуры. Я ведаю мноства таленавітых людзей, якія не адбыліся ў мастацтве, таму што ім не хапіла альбо школы, альбо волі, магчымасцей і ідэй. Бог пацалаваць мусіць, і ў чалавеку павінна сысціся вельмі многа, каб ён быў мастаком.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Абмен досведам

## Мастакі Беларусі і Францыі сустрэліся на выстаўцы *«Art capital»* у Мінску



Францужаза Давід Леруа «Учора».

У Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47) праходзіць выстаўка твораў сучасных французскіх і беларускіх мастакоў — удзельнікаў знакамітага міжнароднага парыжскага форуму мастацтва *«Art Capital»*.

Летась Францыя і прыняла беларускіх мастакоў у парыжскім Гранд-Пале. Работы беларускіх творцаў адзначаныя французскімі мастацтвазнаўцамі, а мастачка Валянціна Шоба і скульптар Сяргей Парцянкоў атрымалі прэмію фонду Тэйлара — арганізацыі, якая падтрымлівае таленавітых творцаў. Сёлета — візіт у адказ. З Парыжа ў Мінск прывезена каля трыццаці мастацкіх твораў. Свае работы прадстаўляюць па пяць мастакоў ад трох салонаў — гістарычнага, параўнанняў, а таксама малюнка і жывапісу. Замежныя мастакі на адкрыцці праекта падзяліліся, што ўражаны, як беларускія аўтары здольныя адчуваць тонкасці жыцця і як смела іх адлюстроўваюць у творах.

Вельмі добра, што французскія мастакі асабіста наведалі нашу краіну, таму што тут у іх ёсць магчымасць бліжэй пазнаёміцца з беларускім мастацтвам,



Юрый Анушка «Яшчэ раз пра каханне».

даведацца больш пра нашу нацыянальную культуру і адчуць тонкую сувязь, якая зарадзілася паміж мастацтвам Беларусі і Францыі.

На адкрыцці выстаўкі пасол Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы Павел Латушка падкрэсліў:

— Францыя і Беларусь — гэта не настолькі далёкія краіны, гэта гісторыя, якая налічвае стагоддзі ўзаемадзеяння, пачынаючы з XVIII ст., калі ў Беларусі дзякуючы французскім харэографам з'явіўся балет. Летась беларускія мастакі былі добра прыняты нашымі калегамі. І тое, што Валянціна Шоба і Сяргей Парцянкоў атрымалі там прэмію барона Тэйлара, якая была заснавана яшчэ ў XIX стагоддзі, — сапраўдная ўзнагарода, прызнанне школы манументальнага мастацтва Беларусі.

Скульптуры і жывапісныя творы беларускіх аўтараў прадстаўлены ў асобнай зале. Цікавасць з боку гледачоў — велізарная. Як адзначыла Наталля Шарангові ч, гэтыя творы — скарб культуры, яны праслаўляюць беларускую зямлю. І скульптура, і жывапіс шматгранныя. Тыя ж мастацкія творы Валянціны Шоба можна разглядаць бясконца і знаходзіць у іх мноства важных сімвалічных дэталяў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# КАМПАЗІТАРЫ — НЕВІДЗІМКІ?

**Кімсьці падлічана, што ў філармонію паслухаць класічную музыку ходзіць толькі адзін працэнт насельніцтва. Некаторыя называюць гэтых людзей музычнай «элітай», а музыку — «элітарнай», гэта значыць недаступнай для большасці. А таму, маўляў, яна не патрабуе асаблівай увагі. Тым не менш гэтая музыка не такая ўжо недаступная. Калі пачаць яе слухаць, «настройваць» на яе ўспрыманне струны душы, то прыйдзе адчуванне, што любая разухабістая папса не заслугоўвае ўвагі. Сёння, як і ў мінулыя стагоддзі, існуюць кампазітары, якія пішуць «складаныя» музычныя творы. Яны разумеюць, што пішуць для аднаго працэнта. Аднак не здаюцца.**
**Сярод іх — вядомы кампазітар, загадчыца кафедры кампазіцыі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар Галіна Гарэлава. Сёння Галіна Канстанцінаўна разважае аб праблемах кампазітарскага мастацтва і акадэмічнай музыкі.**


Галіна Гарэлава.
Фота Кастуся Дробава.

— У свядомасці большасці моладзі сучасная музыка — гэта толькі поп-музыка. Як такое магло здарыцца? Безумоўна, ёсць вяршыні акадэмічнай музыкі, калі ў некаторых выпадках яна ўжо становіцца маладаступнай для разумення большасці. Хоць і ў яе ёсць свая аўдыторыя. Аднак мы зараз гаворым не пра такую музыку. А пра тую, што апелюе да эмоцый, пачуццяў. Яна можа быць рознай: забаўляльнай, як некаторыя творы Гайдна або І. Штрауса, але і споведдзю, і пропаведдзю, і малітвай, і разважаннем, падымаючы чалавека ў яго духоўным развіцці.

Мы — прадстаўнікі мастацтва, якое іншы раз называюць «сур'ёзнай», іншы раз — «класічнай музыкай». Хоць правільней гаварыць «сучасная сімфанічная» або «сучасная камерная музыка». Таму што класічная музыка — гэта тая, што ўжо прайшла праверку часам. Сучасная ж музыка, тая, якую часта называюць «акадэмічнай», — гэта нешта фундаментальнае ў тым сэнсе, што ў аснове яе — вечныя каштоўнасці. Каб зразумець гэтую музыку, спатрэбіцца пэўнае напружанне душэўных сіл. Але ці ўсе да гэтага гатовыя? У наш час музыку большасць успрымаюць толькі як спосаб павесяліцца, прыемна прабавіць час, і не больш.

**— Вы зараз гаворыце пра няправільнае стаўленне да музыкі?**

— Музыка як такая згубіла першапачатковую каштоўнасць. Таму што зараз, пры вялікай колькасці гуказапісвальнай і гукаўзнаўляльнай тэхнікі, прайграванне не патрабуе, як раней, вялікіх намаганняў. У мінулыя стагоддзі, каб музычны твор пачула публіка, патрэбна было яго напісаць, затым сабраць калектыў выканаўцаў, развучыць ноты, правесці мноства рэпетыцый, і толькі пасля, нарэшце, выканаць перад слухачамі. Сёння ж дастаткова націснуць на патрэбную кнопку, і з дынамікаў загучыць любая музыка. Таму музычнае мастацтва ўспрымаецца многімі як нешта надзвычай лёгкае. Са СМІ ў нашы вушы часцей трапляе легкаважная, без абавязацельстваў музыка, якая ставіць за мэту толькі пазабаўляць.

А вось класічная музыка, якую чуем і слухаем радзей, чым хацелася б, вельмі неабходная чалавеку, асабліва ў складаныя перыяды жыцця. У часы Вялікай Айчыннай вайны менавіта Ленінградская сімфонія Шастаковіча знайшла водгук у душах людзей усяго свету, дапамагаючы выстаяць у ваенных выпрабаваннях.

У сваёй кнізе брытанскі музыказнаўца Норман Лебрэхт — аўтар бестселера «Хто забіў класічную музыку?» — правёў цэлую серыю расследаванняў, з якіх бачна, што продаж пласцінак з класічнай музыкай значна ўзрастаў пасля кожнай вайны. Значыць, гэта было патрэбна людзям, каб аднавіць душэўную раўнавагу.

Для таго, каб выратавацца ў нашым трывожным і няўстойлівым свеце, нельга забываць пра духоўныя карані. А высокае мастацтва класічнай, «сур'ёзнай» музыкі і ёсць гэтыя духоўныя карані. Соф'я Губайдуліна, расійскі кампазітар з сусветным імем (яе называюць яшчэ «першым кампазітарам свету»), сказала, што «высокае мастацтва — гэта дыханне нацыі».

**— Ці можна лічыць, што ў Беларусі ў кампазітараў, якія працуюць у сур'ёзных жанрах, існуюць цяжкасці?**

— Існуюць. Перш за ўсё гэта праблема камунікатыўнасці новай музыкі. Вось мы раней гаварылі, што сучасная сімфанічная, або камерная, музыка можа быць і пропаведдзю, і споведдзю, і малітвай... Але наколькі слухач здольны прыняць гэту споведзь, зразумець яе мову? Адсюль цяжкасці яе бытавання, распаўсюджвання. Акрамя гэтага, калі класічная музыка (тая, што была напісана ў мінулыя стагоддзі) па сваёй мове ўжо звыклая для філарманічнай публікі, то з музыкай, напісанай сучаснымі кампазітарамі, справа ідзе складаней. Гэта тычыцца і выканаўцаў: класіку, адабраную часам, выконваць, калі так можна выказацца, «больш бяспечна», чым опус сучаснага аўтара.

Я, як аўтар, не пакрыўджана выкананнем сваіх твораў. Тым не менш і мне, і маім калегам здаецца, што мы проста някбачныя для соцыуму і з'яўляемся некай маргінальнай яго часткай. Вырасла цэлая плеяда маладых таленавітых аўтараў, якія зрэдку чуюць свае буйныя творы ў выкананні аркестра. (Камерныя свае опусы яны стараюцца выканаць уласнымі сіламі.) Пахвалюся, што была першым кампазітарам, якому прапанавалі напісаць музыку да фестывалю Ю. Башмета, і ў шматлікіх інтэрв'ю таго часу не стамлялася паўтараць, што гэтая практыка прэм'ер музыкі беларускіх кампазітараў павінна стаць традыцыйнай. Цяпер магу радавацца, што ўсё так і здарылася, і ўжо мае вучні пішуць музыку для гэтага прэстыжнага фестывалю.

Калісьці ў нашай краіне выйшаў загад, у якім было прапісана, што канцэртны рэпертуар выканаўцы і філармоніі абавязкова павінен уключаць нейкі працэнт беларускай музыкі. І тады, на мой погляд, становішча палепшылася. Зараз я не ведаю, ці існуе гэтая квота?

Мы нябачныя яшчэ і таму, шо жывём у эпоху шоуцэнтрызму з яго засіллем маскультуры. Адзіны канал, дзе можна пачуць класічную і сучасную музыку, — гэта радыёканал «Культура», за што я яму вельмі ўдзячная.

Мая сяброўка Любоў Турбіна, якая цяпер жыве ў Маскве, напісала верш, які пачынаецца радкамі: «Грешно спасаться в одиночку...». Сёння многія так спрабуюць выратавацца, хоць маладыя кампазітары (Канстанцін Яськоў, Вольга Падгайская, Кацярына Шымановіч і іншыя) пачалі кааперавацца невялікімі групамі, звязанымі творчымі і чалавечымі інтарэсамі для выканання і распаўсюджвання сваёй музыкі.

**— Чаму лічыцца, што кампазітараў не можа быць шмат?**

— Іх можа быць шмат. Але, як сказаў К. Маер, «пісаць музыку могуць многія, а вось "тварыць" дадзена толькі адзінкам». Адзінкам дадзена ствараць паўнавартасныя, часта са складанай канцэпцыяй, мастацкі твор. Так было ва ўсе часы. У часы Баха, Гайдна, Моцарта, Бетховена вялікая колькасць людзей пісала музыку, але засталіся ў гісторыі толькі нямногія.

Сёння, калі з'явіўся закон аб дармаедах, нам у Акадэміі музыкі даводзіцца разглядаць дасланую з Міністэрства культуры «прадукцыю» аўтараў, якія хочуць атрымаць статус творчага супрацоўніка і пазіцыянуюць сябе як «кампазітары». І мы часта вымушаны даваць заключэнне, што, з'яўляючыся па фармальных прыкметах музычнымі сачыненнямі, дасланыя ўзоры прымітыўныя і не могуць лічыцца кампазітарскім опусам у плане мастацкага прэцэдэнту.

Цікава, што ў шахматным мастацтве таксама ёсць тэрмін «кампазітар». Гэта той, хто складае цяжкія шахматныя задачы, віртуозныя шахматныя эцюды. І чалавека, які ледзьве ведае шахматныя хады, ніколі не назавуць «кампазітарам». Чаму ж павінна быць інакш у музычным мастацтве? Аднак яшчэ паўтара стагоддзя назад крытык Уладзімір Адоеўскі заўважыў, што «музыка ўжо такое разняшчаснае мастацтва, што кожны лічыць сябе знаўцам у ім».

Асабліва гэта выказванне актуальнае цяпер, калі існуе мноства тэхнікі, усемагчымай гукавой апаратуры. І той, хто хоць крыху можа ёю карыстацца, нават часта не ведаючы музычнай граматы і нот, лічыць сябе кампазітарам. З раніцы да ночы па розных СМІ чувань: «кампазітар такі і такі... ». Ну, назвалі б хоць раз кагосьці: «аўтар музыкі». Ды не. Усё гэта не дабаўляе прэстыжу нашай прафесіі — прафесіі кампазітара. Таму што кампазіцыя ў яе сапраўдным значэнні згодна з энцыклапедыяй — вяршыня музычнай навукі! Кампазітары — гэта, на мой погляд, «адзінкавы тавар». У мяне вучыліся студэнты з бліскучымі прыроднымі дадзенымі, якія так і не сталі кампазітарамі. Для гэтай прафесіі важны такі складнік, як крэатыўнасць. У сапраўднага кампазітара ёсць неабходнасць пабудаваць свой свет, не падобны да свету іншых, дзе толькі ён будзе уладальнікам. Для гэтага неабходна пастаянна быць у творчым напружанні, слухаць музыку, чытаць, думаць, каб душа была гатовая ўспрыняць новую ідэю, як «узаранае поле гатовае для прыняцця новага зерня». Калі твая душа — гэта «цаліна», то наўрад ці там штосьці прарасце.

**— Вы выкладаеце студэнтам у Акадэміі музыкі. Рыхтуеце будучых кампазітараў. Мабыць, вельмі прыемна ўсведамляць, што такім чынам вы ў стане паўплываць на сітуацыю, якая склалася. Ці ёсць надзея, што вашы выхаванцы будуць адпавядаць вашым спадзяванням?**

— Я з радасцю спяшаюся на працу, калі ёсць студэнты, дзеля якіх варта спяшацца. Але ўсё часцей замест таго, каб схадзіць у філармонію на канцэрт, яны апраўдваюцца, што слухалі твор у інтэрнэце, і далёка не заўсёды гэта так. У мае студэнцкія гады было неверагодным не ведаць не толькі музыкі, але і сюжэта опер «Рыгалета» Вердзі або «Барыса Гадунова» Мусаргскага. Апошнім часам, на жаль, з гэтым сутыкаешся пастаянна. У Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі даюць вельмі добрую, проста цудоўную адукацыю. І выкладчыкі ў нас адданыя сваёй справе. Акадэмія музыкі сёння — гэта апошні аплот высокапрафесійнага музычнага мастацтва. І я, і мае калегі ўсведамляем і спрабуем гэта данесці да студэнтаў, што місія высокага мастацтва, місія класічнай (або акадэмічнай) музыкі — гэта падняць вышэй у духоўным развіцці хаця б аднаго чалавека. А для гэтага варта спярша самому адпавядаць таму духоўнаму і прафесійнаму ўзроўню, да якога захочуць дацягнуцца іншыя. Наколькі сённяшнія студэнты ўспрымаюць гэта нашае пасланне, пакажа час. Хочацца спадзявацца на лепшае.

**— Што для вас важна ў прафесійнай дзейнасці?**

— Для мяне як кампазітара вельмі важна заставацца вернай сабе. Я лічу, што важна пісаць пра тое, што для цябе самога цікава, блізка, дорага, тады і іншым будзе цікава, а можа, нават блізка і дорага. Я ніколі не гавару такіх напышлівых слоў, як «маё творчае крэда», але яно існуе, і, спадзяюся, яго заўважаюць і разумеюць іншыя.

**Ганна ЛАГУН**

# КІНАМАГЧЫМАСЦІ СНЕЖНЯ

## 1. Прэм'ера беларускага фантастычнага фільма «Розум».



З 8 снежня ў сталічных кінатэатрах «Беларусь», «Мір», «Бярэсце», «Камсамолец» і «Аўрора» можна ўбачыць карціну «Розум», а ўжо ў студзені кіно пакажуць у рэгіёнах Беларусі.

«Розум» — дэбютны фільм рэжысёра Яўгена Куранчаніна. Заснавана стужка на адной з тэорый квантавай фізікі пра магчымасці кіравання жыццём сілай думкі. Здымачная група представіла і некаторыя звесткі пра сюжэт, па якім каманда здабывае інфармацыю з мінулага з дапамогай унікальнага абсталявання, але сутыкаецца і з будучыняй — кіно ў духу Крыстафера Нолана. Дарэчы, стужка ўжо паспела прыцягнуць увагу нават замежных СМІ.

Фільм закране і ўзаемаадносіны людзей: для аматараў рамантыкі тут будуць каханне, здрады і інтрыгі, для больш суровай аўдыторыі — праблемы выбару. У праекце паўдзельнічалі і вядомыя беларусам акцёры: Павел Южакоў-Харланчук, Алег Гарбуз, Мікалай Кірычэнка, а таксама і тыя, пра каго даведацца яшчэ давядзецца: Павел Лотар і Лізавета Фалей. У эпізодах здымаліся і прадстаўнікі беларускай моднай індустрыі — адзін з самых папулярных дызайнераў Апці Эзіеў і яго сябра — мадэль Андрэй Віхроў.

Аўтары карціны распавялі, што здымкі працягваліся 17 дзён, у стужцы ёсць эпізод з ваўкамі, які здымалі на мяжы Браслаўскага і Міёрскага раёнаў, а асноўнае дзеянне адбываецца ў Мінску (дзе яго жыхары змогуць пазнаць ці не пазнаць 35 лакацый). Кіно здымалася без спонсарскай падтрымкі, але з дапамогай людзей, якія выказвалі зацікаўленасць праектам.



## 2. Бясплатны курс «Змяненне становішча: асноўныя кінастылі XX ст.».

Майстэрня сацыяльнага кіно запрашае ўсіх ахвотных далучыцца да гісторыі кіно і кінастылістыкі: курс будзе ісці на працягу ўсяго снежня па панядзелках. Задача арганізатараў — гэта даследаванне эвалюцыі стылістыкі экрана праз разбор трэндаў і школ кіно XX стагоддзя. Аналізаваць мову кіно будуць не толькі тэхнічна ці праз «кіназнаўчыя нататкі» — вывучаць выказванні кінааўтараў, разбіраючы кантэкст. Арганізатары адзначаюць, што «змест курса — не тэарэтычныя выкладанні, а суб'ектыўнае паглыбленне ў абставіны з'яўлення і мутацыі пэўных спосабаў рабіць кіно. Гэта асабістая версія развіцця экраннага мыслення, якая прадугледжвае аўдыторыю ў якасці суразмоўцы і суаўтара». На курсе пагавораць пра Мельеса і братоў Люм'ер, нямецкі экспрэсіянізм, палітычнае кіно як барацьбу агітатара і праўды, рэалізм, нуар, фільмы «новай хвалі», стужкі Джармуша, Альмадовара і Фасбіндэра як прадстаўнікоў артхаўса, «Догму» і калапс экранных шоу. Тэарэтычныя веды будуць падмацоўвацца творчай часткай. Каб трапіць на курс, трэба толькі запоўніць анкету.

## 3. Майстар-класы «*Smartfilm*».




10 снежня пройдуць чатыры майстар-класы пад агульнай назвай «*Cinema Weekend*». Тут навучаць пісаць сцэнарыі для кіно, распавядуць пра неабходнасць у кінематографе гукавых прыёмаў, пакажуць анлайн-майстар-клас вядомага расійскага рэжысёра Дзмітрыя Астрахана «Праца рэжысёра з акцёрам». Пляцоўка для больш спецыфічных дыскусій таксама будзе дастаткова: арганізатары прапануюць майстар-клас па акцёрскім майстэрстве, «якому паверыў бы і Станіслаўскі», урокі па выкарыстанні кадраў і аповед пра этапы кінавытворчасці ад прадзюсара Андрэя Навіцкага. Паву́чыцца можна будзе і ў вядомага расійскага кінарэжысёра Юрыя Быкава (удзельнічаў у стварэнні фільма «Дурань», серыяла «Метад»), а таксама ў Мітрыя Соркіна (крэатыўны прадзюсар кампаніі *Feeling Films*), які распавядзе пра стварэнне сферычных кадраў. Акрамя навучання, удзельнікаў майстар-класаў чакаюць паказы стужак маладых і паспяховых беларускіх рэжысёраў («Адной крыві» Мітрыя Сямёнава-Алейнікава, «Дваццацьшаснаццаць» Андрэя Крывецкага і Дзмітрыя Рачкоўскага, «Пад кронамі дрэў» Ігната Качана), лепшых фільмаў Мінскага міжнароднага фестывалю кароткаметражных фільмаў *Kinosmena* і новага фільма двухразовых уладальнікаў «Залатой пальмавай галіны» братоў Дардэнаў «Невядомая». Пасля кожнага з праглядаў гледачоў чакаюць дыскусіі з рэжысёрамі, арганізатарамі кінафестываляў і кінакрытыкамі.

# Антрапалогія

## У Мінску пройдзе кінафестываль пра чалавека

**На наступным тыдні адбудзецца міжнародны фестываль дакументальнага кіно «*Watch Docs*». З 15 па 18 снежня гледачам прадставяць 15 стужак, звязаных адной тэмай — ахова правоў чалавека. Паглядзець стужкі можна будзе на дзвюх пляцоўках — ЦЭХ і Галерэя *TUT.by*.**

«*Watch Docs*», заснаваны ў 2001 годзе, у Беларусі ладзіцца ў другі раз. Лейтматываў сёлетняй падзеі некалькі: на фестывалі пакажуць фільмы пра жыццё моладзі, сутыкненне культур Усходу і Захаду і пра людзей, якія змяняюць свет. Гэта адзін з самых буйных еўрапейскіх фестываляў неігравога кіно ў справе абароны правоў чалавека (штогод стужкі на «*Watch Docs*» праглядаюць больш за 60 тысяч чалавек).

Арганізатары не хаваюць праблем фестывалю з фінансаваннем, таму ў Мінску зараз праходзіць акцыя «*Watch DOCs* кава»: набыўшы каву ў адной з мінскіх кавярняў, пакупнікі аўтаматычна выдаткоўваюць 50 капеек на падтрымку кінафестывалю.

Што датычыцца фільмаў на фестывалі, то гэта будзе актуальная дакументалістыка — прастора для дыялогу пра важныя, цікавыя і праблемныя моманты нашага жыцця. Напрыклад, пакажуць унікальную стужку Ханны Полак «Чалавек жыве для лепшага», якая здымалася на маскоўскім сметніку на працягу 14 год і была намініравана на Оскар, кіно «Сірыйская гісторыя кахання» Шона МакАлістэра, прызнанае лепшым дакументальным фільмам 2015 года па версіі Еўрапейскай кінаакадэміі, стужку пра бабулю, якая ў 70 гадоў выпраўляецца ў падарожжа аўтаспынам. То бок, гледачу прадставяць кіно, якое не толькі не пакіне абыякавым, але і натхніць.

Сёлета падчас фестывалю беларусы змогуць і адукавацца: арганізатары прапануюць сустрэчы з журналісткай выдання «*The Guardian*» Холі Уэт, якая працавала з Панамскім архівам, рэжысёрам Аленай Хоравай ды аператарам Андрэем Кісялёвым, якія ў сваёй стужцы скараюць гледача гумарам, гратэскам і гуманізмам адначасова.

# Убачыць «Паўночнае ззянне»

**Дакументальныя стужкі паўночнаеўрапейскіх дзяржаў можна будзе ўбачыць у мінскім кінатэатры «Мір» з 15 па 17 снежня. Уваход на паказы бясплатны, а фільмы будуць дэманстравацца на мове арыгінала з беларускімі і/ці рускімі субцітрамі.**

Пакуль мы чакаем трэцяга фестывалю «Паўночнае ззянне», які пройдзе ў Мінску і Віцебску з 20 па 23 красавіка 2017 года, арганізатары вырашылі пазнаёміць гледача з яшчэ неадкрытым бокам Скандынавіі. У межах пазафестывальнай праграмы «Паўночнага ззяння» пакажуць дакументальныя фільмы пра цуд ісландскага футбола, імігрантаў на каньках і бокс як лекавы сродак.

У пазафестывальных паказах будуць прадэманстраваныя стужкі, якія падчас асноўнай праграмы кінафестывалю паказаць не паспяваюць, і першая серыя «*Sport Doc*» уключае яскравыя неігравыя стужкі з Ісландыі, Фінляндыі і Швецыі.

15 снежня паказы распачнуцца фільмам «Тата любіць цябе» Ніні Ракаса, прысвечаным фінскаму баксёру Юсі Койвула, які ў дванаццацігадовым узросце страціў бацькоў, а пасля — брата і сястру. Толькі спорт, менавіта бокс, дапамог яму вытрымаць удары лёсу, і зараз, калі кар'еры Койвула спаўняецца 17 гадоў, яго спартыўныя дасягненні знаходзяцца пад пытаннем: траўма. Дарэчы, сам Юсі Койвула ў падтрымку праграмы прыязджаў у Мінск. Ён правёў трэніроўку і прадставіў фільм вучням Школы алімпійскага рэзерву па боксе.

16 снежня ў «Міры» пакажуць дакументальны блокбастар «Унутры вулкана — уздым ісландскага футбола» Саевара Гудмундсана. Гэта кіно пра каманду, якая стала сенсацыяй на Еўра-2016. Рэжысёр пачаў здымкі ў той час, калі галоўнай мэтай ісландцаў было прайсці кваліфікацыю, таму праз гэты фільм глядач паназірае за камандай у пачатку яе шляху, а разам з тым і ўбачыць «нараджэнне» легенды.

Закрыюць праграму 17 снежня фільмам «Мілыя людзі» Карын аф Клінтберг і Андэрса Хельгесана. Стужка дапаможа не толькі натхніцца, але і пасмяяцца, у чым упэўніваюць арганізатары. Фільм са Швецыі пра самалійскіх бежанцаў, якія з лёгкай рукі журналіста Патрыка Андэрсана вучацца гуляць у хакей: іх чакаюць 6 гарачых зімовых месяцаў падрыхтоўкі да чэмпіянату ў Сібыры, а тыя, хто збіраецца фільм паглядзець, павінны падрыхтавацца да відовішча цяжкай, камічнай і натхняльнай гісторыі пра чалавечнасць.

**Матэрыялы паласы падрыхтавала Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Маска, пакажы твар

**Катэгарычна не згодна з заявай рэжысёра Мікалая Пінігіна, што Нацыянальная тэатральная прэмія сябе дыскрэдытавала. На мой погляд, выдатна, што ў Беларусі ёсць такая культурная з'ява. Гэта яшчэ адна магчымасць звярнуць увагу на такі від мастацтва, як тэатр. Спосаб азірнуцца, узважыць дасягненні, вызначыць перспектывы. Адзначыць узнагародамі некаторых годных майстроў, да каго званні заслужаных і народных (асабліва да тых, хто служыць у абласных гарадах) проста не даходзяць. Нарэшце, гэта свята для людзей тэатра, якія могуць сабрацца разам, пабачыцца. Чацвёртая падобная сустрэча — уручэнне сёлета Нацыянальнай тэатральнай прэміі.**
**У яе ёсць свае адкрыцці. Варта ўзгадаць ашаламляльны поспех купалаўскага спектакля «Не мой» і гродзенскага тэатра лялек «Пікавая дама». Сапраўды рэдкі выпадак, калі названыя спектаклі, што называецца, прабілі ўсіх: правых, левых, прасунутых, кансерватараў, скептыкаў, цынікаў, прафесіяналаў і публіку. Іншая справа — мерапрыемства гэтае напоўнена арганізацыйнымі нестасоўкамі. Сёлета іх было больш за ўсё.**

## ХТО ЗА ЎСЁ Ў АДКАЗЕ?

Вызначыўшы ўмовы конкурсу і апублікаваўшы Інструкцыю аб яго правядзенні, Міністэрства культуры не пачула і не прыняло да ўвагі мінулыя памылкі, сённяшнія парады і нават абурэнне. Гаворка ідзе пра намінацыі, колькасць якіх павялічыліся да 19, але з іх выключылі рэжысёраў, сцэнографаў, кампазітараў, яркіх дэбютантаў.

Сучасны тэатр можна назваць звышрэжысёрскім. Гэта пацвярджаюць усе без выключэння спектаклі драмы і лялек. Нават у музычным тэатры сёння можна казаць пра тое, што рэжысёрскія канцэпцыі сталі нашмат больш важкімі, чым раней. Рэжысёр стварае, шакіруе, абурае, прыцягвае. У выніку менавіта ён адказвае за канчатковы прадукт. Часта адказвае разам са сцэнографам. Калі добра іграюць артысты — дзякуй рэжысёру. Калі дрэнна — ён не дапрацаваў.

Сёлета можна было ў поўны голас гаварыць пра рэжысёрскія прарывы ў такіх спектаклях, як «Чайка», «Крэйцарава саната», «Пінская шляхта», «Фро», «Візіт старой дамы», «На дне», «Саша, вынесі смецце».

Мікалай Пінігін выявіў у чэхаўскай «Чайцы» прадчуванне будучых катаклізмаў, але не надта ўдумліва прачытаў чэхаўскі тэкст, каб дапамагчы акцёрам выбудаваць свае ролі і каб бег чалавечага жыцця не ператварыўся ў кавалкі атракцыёнаў.

Занадта адкрытыя ў праявах сваіх пачуццяў артысты ў «Пінскай шляхце» і «На дне». «Фро» зроблена расійскім рэжысёрам Русланам Кудашовым у яго вельмі стрыманай сумнай манеры. «Саша, вынесі смецце» — першая рэжысёрская праца нашага Дзмітрыя Багаслаўскага, блізкая яго ж уласнай ціхмяна-выбухной драматургіі.

«Крэйцарава саната» — містычна-загадкавае дзейства рэжысёра Саўлюса Варнаса, пазбаўленае звыклай логікі. Яго, як і магілёўскі лялечны спектакль «На дне», можна назваць тэрмінам мастацтвазнаўцы Ханса Лемана «энергетычны тэатр». Як крытык, я не змяншаю іх вартасцей, аддаю свой голас гэтым спектаклям.

Побач з яркімі рэжысёрскімі працамі стаяць сцэнаграфічныя. Гэта зашытая дошкамі прастора «Чайкі» з адкрыўной сцэнай-заднікам, дзе ёсць і Вядзьмарскае возера, і кабінет Трэплева, і рэха вайны. Мастак Марыус Яцоўскіс. Узрушальна наватарская праца Таццяны Нерсесян у магілёўскіх спектаклях «На дне» і «Самы маленькі самалёт на свеце». Эстэтычная прыгажосць сцэнаграфіі Ірыны Камісаравай у «Крэйцаравай санаце». Умелае выкарыстанне падвальнай прасторы Дзмітрыем Багаслаўскім у спектаклі «Саша, вынесі смецце».

Нельга было абысці ўвагай арыгінальную музыку Андрэя Зубрыча ў «Чайцы», Мулявіна — Еранькова ў спектаклі «Пясняр», Ягора Забелава ў «Мабыць?», Алега Венгера ў «Пінскай шляхце».

Усё разам — рэжысура, сцэнаграфія, музычнае афармленне, у некаторых выпадках пластыка — засталося па-за ўвагай, хоць менавіта гэта прынесла поспех спектаклям і прадэманстравала перспектывы нашага тэатральнага руху.

## А СУДДЗІ ХТО?

Сорак чалавек уключылі ў склад чатырох журы. Падчас першай нацпрэміі было крыху больш за сто. Вядома ж, зашмат, каб ацаніць дваццаць спектакляў. Зразумела ж, людзі ўсе паважаныя, дыпламаваныя, вядомыя тэатральнай грамадскасці. Але раскідалі іх шмат у чым па прынцыпе выпадковасці, асабліва гэта тычылася журы тэатра для дзяцей і юнацтва. Там былі абазнаныя добрыя спецыялісты з розных сфер мастацтва, але ніхто з іх не займаецца праблемамі тэатра для дзяцей ні ў ляльках, ні ў драме. І наогул гэтую «дзіцячую нішу» конкурсу можна было б назваць «спектаклямі для самых маленькіх». Іх набралася ўсяго тры, ды і то знайшлі выключна ў лялечных тэатрах. Але ж ёсць казачнікі і ў тэатрах драмы. Нарэшце, ёсць Тэатр юнага гледача, які абавязаны ствараць для дзіцячай аўдыторыі.

ТЮГ не першы год выпадае з поля ўвагі нацыянальнай прэміі. Варта задумацца над гэтым фактам. Лічу, што там сёння ёсць адзін выдатны і па-сапраўднаму таленавіты спектакль для дзіцячай аўдыторыі з вельмі добрай пазітыўнай аўрай — «Паліяна». Ён быў створаны даўно Андрэем Андросікам, якога ўжо няма сярод нас. Нядаўна спектакль аднавіў акцёр і рэжысёр Ігар Сідорчык, але ТЮГ не працягнуў з ім кантракт. Магчыма, на часе стварэння «Паліяна» магла не патрапіць на конкурс, хоць гэта пытанне спрэчнае. Але спектакль не падабаецца кіраўніцтву тэатра і рэдка з'яўляецца ў афішы.

ТЮГ «праляцеў». Засталіся па-за ўвагай і іншыя тэатры. Пакрыўдзіўся Віцебск. У лістападзе ён адзначыў сваё 90-годдзе. Усё ж такі Нацыянальны акадэмічны тэатр. Не паказалі сваю прадукцыю Гомель, Бабруйск, гродзенская і брэсцкая драма. Выпадковасць ці заканамернасць? Магчыма, і тое, і другое. Многія члены журы былі ў адборачнай камісіі. Глядзелі яны заяўленыя тэатрамі спектаклі на дысках. Натуральна, відэаматэрыял моцна адрозніваецца ад жывога спектакля (на камандзіроўкі для экспертаў не было вылучана грошай).

## ЛЕПШАЯ ПАСТАНОЎКА ПА ТВОРЫ БЕЛАРУСКАГА АЎТАРА

Драматургічны цэх, калі меркаваць па колькасці членаў Саюза пісьменнікаў, у нас вялікі. Пішуць п'есы таксама артысты, рэжысёры, журналісты. Чаму ж з'яўленне ў тэатры спектакля па п'есе сучаснага беларускага драматурга — рэдкая падзея?

На Нацыянальную прэмію былі вылучаныя пяць прэтэндэнтаў. Нагадаем, пастаноўка па творы беларускага аўтара. Пры чым тут балет «Маленькі прынц»? Стваральнік тэксту Антуан дэ Сэнт-Экзюперы. Але музыка нашага выдатнага кампазітара Яўгена Глебава. Пастановачная група як заўсёды ў асобе балетмайстра, сцэнографа, дырыжора. Хто ж усё-такі беларускі аўтар? Але няхай будзе: у музычным тэатры свае законы. Свае законы і ў лялек. Таленавітая Святлана Залеская-Бень прыдумала «ўлётную казку» «Самы маленькі самалёт на свеце». Але яна не драматург. Яна актрыса, рэжысёр, фантазёр, спявачка. Сцэнар для «Песняра» напісаў Васіль Дранько-Майсюк. Магчыма, у першапачатковым выглядзе ў яго быў больш матываваны тэкст. Сцэнічны варыянт «Песняра» назвалі тэатральнай версіяй п'есы. Аўтар версіі Аляксей Еранькоў. Як разабрацца: чыя п'еса?



*Сцэна са спектакля «Пінская шляхта» Палескага драматычнага тэатра.*

Спектакль РТБД «Мабыць?» — сумеснае сучаснае даследаванне, якое ажыццявілі акцёры, драматург, рэжысёр, кампазітар у жанры дакументальнай драмы. Канчатковы тэкст належыць Дзмітрыю Багаслаўскаму. Цяпер дакументальнасць зноў папулярная. Можна казаць пра жанравыя разнавіднасці: дакументальная драма, дакументальная камедыя (чаму б не?), вербацім. Новая тэхніка драматургіі. Пры пастаноўцы такіх спектакляў ужо не першае стагоддзе выкарыстоўваюць «хаджэнне ў народ». Некалі артысты знакамітага МХАТа дзеля пастаноўкі спектакля «На дне» дакрануліся да жыцця маскоўскіх начлежак. Піцерскія маладыя артысты рэжысёра Льва Додзіна жылі ў вёсцы, вывучалі мясцовыя дыялекты і побыт, каб стварыць асаблівую атмасферу спектакля «Браты і сёстры». Пайшлі на інтэрв'ю артысты РТБД, кіруючыся жаданнем даведацца праўду і міфы з характары беларуса. У сваіх пошуках знайшлі жыццёвую сілу і энергію, якая зараджае глядзельную залу.

Пяты спектакль, вылучаны на прэмію ў катэгорыі «Драматычны тэатр», — «Пінская шляхта». Пастаноўка Палескага драматычнага тэатра з горада Пінска. У гэтым выпадку ўсё зразумела: ёсць вядомая п'еса Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, якая стала класікай. Ёсць спектакль рэжысёра Віталя Баркоўскага. Што тут адпавядае мэце нашага конкурсу: «адраджаць, развіваць, папулярызаваць лепшыя традыцыі айчыннага мастацтва»? На мой погляд, усё. Напэўна, у Беларусі ўсе тэатры ставілі «Пінскую шляхту». П'есу з музыкай, танцамі, куплетамі заўсёды ігралі як лёгкі пуставаты фарс-вадэвіль. Некалькі гадоў таму яе глыбінны сэнс выявіў рэжысёр Мікалай Пінігін, і тэатр імя Янкі Купалы з трыумфам паказваў свой спектакль на розных сцэнах. Пасля таленавітай купалаўскай пастаноўкі, здавалася, ужо немагчыма сказаць новае слова без перакручвання драматургічнага матэрыялу. У Пінску гэтае новае слова сказалі.

Спектакль «Пінская шляхта» цалкам зроблены ў традыцыях беларускага тэатра, з павагай да драматурга і сучасным рэжысёрскім бачаннем таго, што з мінулага пранікае ў сучаснасць. Нацыянальны драматычны тэатр вырастаў з танцавальнай, песеннай, музычнай культуры. У спектаклі Віталя Баркоўскага гэта прадстаўлена далікатна, інтэлігентна, радасна, без перабораў. Зараз гэта ўжо не вясёлы вадэвільчык з багатай сцэнічнай гісторыяй. Гэта трагіфарс. Рэжысёр не прыдумляе тое, чаму магла б супрацьцяўляцца п'еса. Ён вычытвае тэмы і вобразы з першакрыніцы. Іншы час на двары, іншыя людзі і ўсё той жа страх перад чыноўнікамі, тая ж неабходнасць плаціць за ўсё. Уся трупа тэатра на сцэне. Не важны сюжэт з жаніцьбай Грышкі на Марысьцы. Адна дзеючая асоба — народ. Не праблемы амбіцыйнай шляхты, а слёзы, што пераходзяць у смех ад безвыходнасці.

Дык якія перспектывы ў беларускай драматургіі? Яны, наіўныя драматургі, усе пішуць, пішуць, рассылаюць п'есы па тэатрах. Іх не ставяць. Яны не здагадваюцца, што ставіць і далей будуць вельмі рэдка. Наш маленькі аналіз паказвае: ва ўмовах крызісу трэба браць правераныя тэксты, можна выкарыстоўваць не беларускіх аўтараў, варта адчуваць кан'юнктуру, а лепш усё рабіць сваімі сціплымі сіламі, каб не плаціць ганарары.

## А ПАГАВАРЫЦЬ?..

Правядзенне конкурснага тыдня было вялікай падзеяй нашага тэатральнага жыцця. Айчынны тэатр у лепшых сваіх узорах заўсёды звязаны з даследаваннем унутранага свету чалавека. Цяпер такі час, калі вельмі важная выключна форма такой размовы. Але яна можа перакрыць змест. Нават за гэты кароткі тыдзень можна было ўбачыць спектаклі, дзе маральная чысціня і прыгажосць аддадзены маскульту, а ён, як з'ява поп-культуры, ажыццяўляе дэгуманізацыю тэатра. Як жыць нам на гэтым раздарожжы?

Раней звычайна кожная буйная тэатральная падзея шырока абмяркоўвалася за «круглым сталом», у друку, на навуковых канферэнцыях. Сёлета ўсё прайшло ціха, калі не лічыць водгукаў у інтэрнэце. А варта было б адлюстраваць нейкія вынікі. Аднак дзе і як?

У нас ёсць два творчыя саюзы: Саюз тэатральных дзеячаў і Саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў. Саюз тэатральных дзеячаў да Калядаў і Вялікадня рассылае віншаванні ветэранам і раздае статуэткі ў Міжнародны дзень тэатра. Дзякуй і за гэта. Саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў наогул дзіўная арганізацыя: ніхто, нават самі крытыкі, не ведаюць яго складу і дзейнасці.

Ёсць яшчэ аддзел тэатра ў «Цэнтры даследаванняў беларускай культуры» пры Акадэміі навук і навукова-даследчы аддзел Беларускай акадэміі мастацтваў. Шырокая тэатральная грамадскасць да дзейнасці вышэйназваных арганізацый не прыцягнутая.

На жаль, і артысты становяцца нецікаўныя і сілкуюцца чуткамі. Ім не цікавыя прэм'еры, фестывалі, гастролі, праца сваіх калег. Ды і сродкі масавай інфармацыі практычна не выяўляюць жадання аналізаваць працэсы… Вельмі не хочацца прамаўляць настальгічную фразу: «Раней усё было не так». Аднак раней крытычная думка квітнела. А цяпер — хоць бы пагаварыць…

**Таццяна АРЛОВА**

# ПОВЯЗЬ ЧАСОЎ

## у творчасці Віктара Нямцова

**Выстаўка Віктара Нямцова «Млын часу», прымеркаваная да 75-годдзя майстра, экспануецца ў мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага.**



*«Алегорыя трывогі», 1986 г.*

У творчасці мастак арыентуецца на повязь часоў, ён актыўна сумяшчае гісторыю з тым, што рэальна існуе ў жыцці цяпер, фарміруе ўласны мастацкі «альбом», у якім знаходзяцца аб'екты нават калісьці разбураныя. Віктар Нямцоў пераважна піша з натуры, гэта дазваляе больш дакладна перадаць вобраз аб'екта. Калі творца выязджае на пленэр альбо асобна едзе ў пэўнае месца, засяроджваецца на беларускіх храмах і млынах. Храмы заўсёды ставілі з розумам, падбіраючы для архітэктурных пабудоў самыя прыгожыя месцы, і для мастака гэта скарб, знаходка: не трэба нешта выдумваць, усё перад вачыма. Млыны — тэма, да якой Віктар Нямцоў звярнуўся ўпершыню ў 1991 годзе. Мастак не проста адлюстроўвае іх, а займаецца даследаваннем збудаванняў інжынернай творчасці. У галерэі Міхаіла Савіцкага можна ўбачыць трыццаць млыноў, большасць з якіх цяпер не існуюць. Некаторыя мастак паспеў напісаць раней, а некаторыя ўзнаўляў па памяці альбо па фотаздымках. Як адзначыў на адкрыцці выстаўкі рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна, Віктар Нямцоў адлюстроўвае не толькі прыгажосць краіны, яе вобразнасць, ён стварае жывапісна-гістарычныя рэканструкцыі, па якіх можна ўзнаўляць аб'екты.

Практычна кожная работа мастака мае асабістую гісторыю.



*«Стары млын у Пабрэззі», 2004 г.*

— Праект «Млыны Беларусі» я пачаў з млына, які знаходзіцца ў вёсцы Пабрэззе Навагрудскага раёна, — расказаў Віктар Нямцоў. — Калісьці ў маладосці прыехаў туды, убачыў млын, ён мяне ўразіў: працаваў на электрычнасці. Гісторыя яго вельмі драматычная. Жыў у тым краі хлопчык-сірата, галадаў. Яму вельмі хацелася пабудаваць млын і малоць людзям хлеб (гэта была яго мара). У яго не было дома, ён парабкаваў, зарабляў грошы, каб пабудаваць уласны млын. Потым пазычыў сродкі, паабяцаўшы тым, хто дапамог, год малоць хлеб бясплатна. У трыццаць гадоў ён пабудаваў млын. Як і абяцаў, год малоў бясплатна ўсім, хто дапамагаў. А ў 1939 годзе прыйшла савецкая ўлада ў Заходнюю Беларусь, яго раскулачылі і саслалі на дзесяць гадоў. Калі ён вярнуўся, млын ужо не працаваў. Ён яго аднавіў, папрацаваў год і памёр.

Віктар Нямцоў неаднойчы маляваў гэты млын, спрабуючы адлюстраваць яго ў розныя часы года. На выстаўцы экспануецца твор, дзе млын прадстаўлены ў сучасным стане. Але калі зайсці туды сёння, то па-ранейшаму адчуваецца пах хлеба, настолькі родны, што яго хочацца перадаць праз палатно.

Ёсць у экспазіцыі работа Віктара Нямцова «Нараджэнне легенды. Дыпціх», якая была створана аўтарам па гісторыі назвы горада Мінска. Мастак расказвае, што калі даведаўся пра легендарнага волата, які перасоўваўся па Свіслачы на плывучым млыне, то яму стала цікава, які гэта быў млын па канструкцыі, як выглядаў насамрэч. Аказалася, што такі млын намаляваць цяжка: немагчыма ўявіць, як людзі яго пабудавалі.

Мастак адзначае, што калі працуе над творам, адлюстроўвае аб'ект, то яму цікава адначасова звяртацца і да часу, і прасторы, да якіх належыць сюжэт. І калі чалавек хоча апынуцца ўнутры твора, адчуць энергетыку часу, значыць, кампазіцыя атрымалася.

Асобным блокам у экспазіцыі прадстаўлены творы, прысвечаныя тэме Чарнобыля. Адна з цэнтральных работ «Алегорыя трывогі» была напісана мастаком літаральна за два месяцы да катастрофы. Мастак распавядае, што гэты твор стаў своеасаблівым прадчуваннем: за акном 1986 год, усе бачылі, што існаванне становіцца нязвыклым, і штосьці павінна было такое здарыцца, што змяніла б жыццё народа. Пасля аварыі творца не мог доўга падысці да гэтай работы.

Віктар Нямцоў — аўтар, які імкнецца захаваць здабыткі нацыянальнай матэрыяльнай культуры. Дзякуючы творчасці мастака, у беларусаў ёсць магчымасць па выявах унікальных пабудоў, якія дапамагалі чалавеку існаваць, з'яўляліся справай усяго жыцця, даведвацца цікавыя факты з нашай гісторыі.

**Вікторыя АСКЕРА**

## *Культурны ракурс*



**Скульптура «Пакроў Прасвятой Багародзіцы» ўсталявана каля Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора на вуліцы Ажэшка ў Гродне. Аўтар — гродзенскі скульптар, член Саюза мастакоў Беларусі Уладзімір Панцялееў. Ідэя праекта ў скульптара нарадзілася ў італьянскім горадзе Бары, дзе Уладзімір прысутнічаў на адкрыцці помніка Мікалаю Цудатворцу. Думку стварыць манументальны помнік на хрысціянскую тэму ў Гродне падтрымалі тутэйшыя святары, сумесна абралі вобраз і месца для помніка. Трохметровая скульптура выліта з бронзы. Вышыня кампазіцыі разам з манументам з граніту складае 4,2 метра. Манумент стварэўся ў асноўным на сродкі праваслаўных мецэнатаў.**

**Дарэчы, Свята-Пакроўскі кафедральны сабор — помнік архітэктуры неарускага стылю — быў узведзены ў Гродне ў пачатку XX стагоддзя ў памяць пра загінуўшых у руска-японскай вайне салдатах, якія служылі ў 26-й кавалерыйскай брыгадзе. Будавалі па праекце царквы Каспійскага пяхотнага палка ў Новым Пецяргофе. Аднак мясцовыя дойліды прыўнеслі ў праект новыя архітэктурныя элементы, выкарысталі новыя будаўнічыя матэрыялы. Дзякуючы гэтаму храм набыў непаўторныя рысы.**

**Тамара АГАРКОВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 8.12.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1601.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4825

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686